НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 19 (856) 21 мая 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сurодзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Хакей. Мяса. Развод

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Фота зробленае ў краме мястэчка Зембін Барысаўскага раёна.

**Хакей**

## Беларусь — у чвэрцьфінале

Зборная Беларусі па хакеі яшчэ да апошняй гульні групавога этапу забяспечыла сабе выхад у плэй-оф. Беларусы атрымалі чатыры перамогі: над Швейцарыяй, Германіяй, Казахстанам і Латвіяй. Апошні раз беларусы трапляли ў плэй-оф у 2009-м. А на трох апошніх чэмпіянатах атрымалі агулам толькі тры перамогі. Дарэчы, зборная саступіла ў тых сустрэчах, калі на трыбунах прысутнічаў Аляксандр Лукашэнка.

Больш пра хакей — **старонка 9**.

**Гаспадарка**

## «Дзяржава робіць нас вегетарыянцамі»

Чаму так узляцелі цэны на мяса? **Старонка 5.**



**Ток-шоу**

## Лукашэнка гаварыў з Ксеніяй Сабчак пра развод

Кіраўнік краіны даў інтэрв'ю «Дождю». **Старонка 4.**



**Палітыка**

## Украіна мае шанец на рывок

Інтэрв'ю з гісторыкам Яраславам Грыцаком.

**Старонка 2.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Яраслаў Грыцак: Украіна мае

«Трэба толькі вытрымаць пару месяцаў, а далей сітуацыя пачне наладжвацца, — мяркуе выдатны ўкраінскі гісторык Яраслаў Грыцак. — Украіна мае шанец для рыўка».

Ад прыняцця рашэнняў адсунутыя тыя сілы, якія столькі гадоў ставаралі карупцыйную сістэму. А новы ўрад — малады і энергічны. Грыцак высока ацэньвае прафесіяналізм прэм'ера Арсеня Яцанюка («Яцанюк трымае дыстанцыю ад Юліі Цімашэнкі»), а таксама міністраў эканамічнага развіцця і гандлю 42-гадовага Паўла Шараметы і 54-гадовага міністра эканомікі Аляксандра Шлапака.

«Маем першы ўрад, у якім усе міністры гавораць паанглійску», — адзначае ён. Для Грыцака гэта азначае надзею на прыход заходніх тэхналогій.

Новым прэзідэнтам Украіны стане 49-гадовы мільярдэр Пятро Парашэнка, мяркуе Яраслаў Грыцак. Чаму? «Грамадства мае запыт на палітыка, які ўмее таргавацца. А Парашэнка — выдатны перагаворшчык, можа нават з д'яблам гаварыць».

Але ці не будзе Парашэнка чарговым у шэрагу бізнэсоўцаў, што выкарыстоўвалі ўладу для памнажэння ўласнасці? Ні адзін з мінулых прэзідэнтаў Украіны не сыходзіў з пасады папулярным. Януковіч падвёў краіну на мяжу гібелі.

«Не, — кажа Грыцак. — Парашэнка не рваўся на гэтыя выбары. Але апытанні паказалі, што ўкраінцы хочуць менавіта яго, і ён пагадзіўся».




> « Украінскае грамадства мае запыт на перагаворшчыка

**Я гутарыў з Яраславам Грыцаком** у кулуарах вялікага форуму салідарнасці з Украінай, што прайшоў у Кіеве. На яго з'ехаліся інтэлектуалы з усяго свету. Прысутнічалі французскі доктар і былы міністр замежных спраў Бернар Кушнер, рэдактар «Газеты выборчай» з Польшчы Адам Міхнік, амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр, пісьменнік Віктар Ерафееў (Расія), філосаф Бернар-Анры Леві. З Расіі прыехалі таксама вядомы беларусам журналіст Аляксандр Падрабінек і дырэктар Сахараўскага цэнтра Сяргей Лукашэўскі.

Ад Беларусі былі рэдактар «Arche» Валер Булгакаў, гісторык Алесь Пашкевіч, журналіст Віктар Марціновіч, пісьменніца Наталка Бабіна і кінасцэнарыст Андрэй Курэйчык. Арганізатары запрашалі і спевака Сяргея Міхалка, але ў таго былі канцэрты, дый, патлумачыў ён, ён не ўдзельнічае ў форумах такога фармату.

Форум многія параўноўвалі з Кангрэсам у абарону культуры, які адбыўся ў 1950 годзе ў Заходнім Берліне.

Агульны настрой быў вельмі рэзкім адносна Пуціна і расійскага імперыялізму. Пуцін скончыць як Гітлер — такую думку выказвалі многія выступоўцы з еўрапейскіх краін.



Яраслаў Грыцак (справа) з Наталкай Бабінай і Алесем Пашкевічам.

**Яраслаў Грыцак**

Прафесар гісторыі Львоўскага і Будапешцкага ўніверсітэтаў, 53 гады. Аўтар кніг «Нарысы гісторыі Украіны», «Прарок у сваёй айчыне: Іван Франко і ягоная супольнасць», «Жыццё, смерць ды іншыя непрыемнасці».

З чаго ўзялася гэтая папулярнасць? Да снежня мінулага года Парашэнкі не было ў спісе лідараў.

«Усё пачалося з 1 снежня. Калі ўначы на Майдане разагналі студэнтаў, першым з палітыкаў туды прыляцеў Парашэнка і абараняў моладзь, рызыкуючы сабой. Грамадства такія моманты заўважае і цэніць. Пасля ён спадабаўся людзям на Майдане».

Нялёгкая ноша — узначаліць краіну ў такім стане. Вайна, эканамічная блакада, вось-вось могуць перакрыць газ.

«У гэтай сітуацыі пазітыўна тое, што Парашэнка мае амбіцыю ўвайсці ў гісторыю, — кажа Грыцак, які ведае мільярдэра асабіста. — Красці яму няма патрэбы. Грошай ён зарабіў ужо даволі».

Парашэнка нарадзіўся ў горадзе Болград Адэскай вобласці. Бацька Парашэнкі працаваў там галоўным інжынерам райсельгастэхнікі. Дарэчы, Пятро Парашэнка майстар спорту па дзюдо. Пуцін такога ўзроўню не дасягнуў.

«Парашэнка не ідэальны, але іншыя горшыя, — кажа Грыцак. — Парашэнка прагматык».

Украінцы выбіраюць прэзідэнта на фоне сітуацыі, калі «лёс Данецка і Луганска невядомы», прызнае Грыцак.

У той жа час аптымізм у яго выклікае той факт, што баевікам з дзвюх спробаў не ўдалося захапіць Адэсу і Харкаў, прычым у сітуацыі калі мясцовыя сілавікі бяздзейнічалі, жорсткі адпор дало мясцовае насельніцтва.

І ўкраінцы, і заходнікі высока цэняць пазіцыю Аляксандра Лукашэнкі па Украіне. Гэта адзначыў і Грыцак, і нашы суразмоўцы ў Міністэрстве замежных спраў Украіны. Міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус таксама назваў пазіцыю Беларусі па Украіне «незалежнай».

«Пуцін не разумее Украіны, — адзначае Грыцак. — Ён жыве ілюзіямі, і гэта нас ратуе».

**Мікола Бугай, Кіеў — Мінск**

**Еўропа адчувае віну** перад Украінай за тое, што нездольная абараніць яе ад агрэсіі ваенным шляхам, а таму гатовая «адкупляцца грашыма», — кажа Яраслаў Грыцак. Фактычна, сёння магчымы сапраўдны «план Маршала» для Украіны. Хваля салідарнасці з Украінай у свеце каласальная. «Мы ўсе цяпер украінцы», — сказаў рэдактар уплывовага часопіса «The New Republic» Леон Візэльцір. Візэльцір лічыць, што «фашысцкі рэжым Пуціна малюе фашыстамі ўкраінцаў». А гісторык Цімаці Снайдэр засцерагае, што ў аблічны расійскіх баевікоў на зямлю Украіны вярнуўся рэальны нацызм.

**Самае чытанае на nn.by за 14-20 мая**

# шанец для рыўка

## Кіраўнік баевікоў заклікаў на перадавую жанчын

«Ніяк не чакаў, што ва ўсёй вобласці не знойдзецца і тысячы мужчын, гатовых рызыкаваць жыццём не ў сваім горадзе, а на перадавой, дзе кожны дзень страляюць», — сказаў ён.

Расійскі дыверсант Ігар Гіркін, вядомы пад псеўданімам Стралкоў, абвясціў сябе Вярхоўным Галоўнакамандуючым Данбаса. Каб прысароміць мужчын, ён заклікаў жанчын Данбаса запісвацца ў баявыя атрады. Пра гэта Стралкоў заявіў у сваім відэазвароце, размешчаным на YouTube.

«Калі мужчыны не здольныя, прыйдзецца заклікаць жанчын. Я аддаў загад прымаць іх у апалчэнне. Вельмі шкада, што сярод жанчын няма афіцэраў, але якая розніца, калі мужчыны-афіцэры да нас не едуць зусім», — сказаў ён.

Стралкоў таксама расказаў, што цяпер яго атрады складаюць пераважна мужчыны ва ўзросце далёка за 40. «Ва ўсёй вобласці не знайшлося і пары дзясяткаў мужчын-афіцэраў, гатовых узначаліць атрады», — з горыччу прызнае ён.

«Магчыма, засталіся лічаныя дні, і баявыя дзеянні, што ідуць без асаблівай жорсткасці, разгорнуцца ў бітвы з дзясяткамі і сотнямі забітых і параненых», — адзначыў ён.

Стралкоў заклікаў усіх здольных насіць зброю ўзяць удзел у баявых дзеяннях супраць украінскай арміі. «Дзе тыя 27 тысяч добраахвотнікаў, пра якіх пішуць журналісты? Не назіраю», — з горыччу наракае ён.



Патрыятычны ўздым у Кіеве масавы. На многіх балконах вісяць нацыянальныя сцягі. Георгіеўскай стужкі не сустрэў ні адной. Многія людзі на вуліцах носяць вышыванкі. На фота: сцэнка каля помніка Багдану Хмяльніцкаму на Сафійскай плошчы.



У Кіеве пануе разняволеная атмасфера. Кавярні перапоўненыя, вірують начныя фестывалі. На Майдане — карнавал дзень і ноч. Нават, магчыма, занадта весялосці і забаваў з улікам таго, што на ўсходзе краіны ідзе канфлікт.
Фота злева зроблена на Уладзімірскай вуліцы Кіева ля Залатых Варотаў а 23-й гадзіне ў пятніцу 17 мая. Недзе прыкладна ў гэтым месцы ў 1240 годзе ў горад уварваліся перадавыя сотні арды Батухана. Цяпер жа моладзь грае тут на вулічным фартэпіяна, седзячы на сплеценых з лазы лаўках. Людзі спыняюцца паслухаць. У Мінску такога сабе не ўявіць.

Цімаці Снайдэр: Украіна сёння — гэта адзіная месца, дзе рускія могуць гаварыць свабодна »




А сярод тратуараў стаяць імправізаваныя мемарыялы героям рэвалюцыі: шыны, каскі, свечкі. Надпіс на фанерным «шчыце» з барыкадаў: «Не забівай».




На майках у людзей, на машынах і таксафонах — надпісы, якія высмейваюць Пуціна. «ПТН» — гэта скарачэнне ад Пуціна. А ПНХ — гэта таксама скарот...

## Мільярдэр Ахметаў заклікаў Данбас выйсці на забастоўку супраць сепаратыстаў

Уладальнік кампаніі СКМ Рынат Ахметаў заявіў, што дзеянні ўзброеных сепаратыстаў немагчыма больш цярпець. «Па Данбасе ходзяць з аўтаматамі, гранатамётамі, у гарадах бандытызм і марадзёрства. Гэта хіба мірнае жыццё? Гэта хіба моцная эканоміка? Хто чуў пра тых лю-дзей, якія называюць сябе лідарамі Данецкай Народнай Рэспублікі?»

Прадпрыемствы адгукнуліся на заклік Ахметава, і ў аўторак у 12.00 па ўсёй вобласці загулі гудкі, а аўтамабілісты сігналілі.

У адказ баевікі абвесцілі пра пачатак нацыяналізацыі прадпрыемстваў мільярдэра і пагражаюць збіць верталёт, якім ён перамяшчаецца.

Адзін з лідараў тэрарыстаў, Аляксандр Мажаеў, вядомы як Бабай, у відэазвароце папрасіў у Расіі гарматы. «Нам трэба ўзбраенне, якое будзе з адлегласці душыць праціўніка. Нам не хацелася б губляць сваіх людзей, а спальваць усё дашчэнту на адлегласці (**відэа можна пабачыць на NN.BY**).



# У Мінску людзі не далі затрымаць хлопца за беларускую мову

«У фан-зоне на Нямізе адбылося некалькі боек паміж расійскімі заўзятарамі і беларусамі. Пасля гэтага там з'явіліся прыкладна 15 чалавек АМАПу, удзельнікі бойкі да гэтага часу паспелі разбегчыся хто куды. І міліцыянты пачалі аглядаць людзей, якія стаялі побач», — расказаў сайту Рух.by Мікіта Семяненка.

Па ягоных словах, ён і яшчэ некалькі чалавек увесь гэты час стаялі і размаўлялі з хлапцамі з Докшыцаў пра беларускую мову. «Міліцыянты правялі праверку дакументаў ва ўсіх нас. Потым узялі мае, перапісалі ўсе дадзеныя. Потым кажуць, хадзем з намі», — дадаў актывіст.



Калі ён запытаўся, за што яго затрымліваюць, то атрымаў розныя адказы. «Першы амапавец кажа: «Мы цябе не затрымліваем». Другі, што «затрымліваем па артыкуле 17.1 КоАП (дробнае хуліганства) за тое, што ты мацюкаўся». А трэці: «Пойдзем, паразмаўляем», — расказаў Семяненка.

Але людзі, па ягоных словах, сказалі: «Не таго затрымліваеце». І хаця ім прыгразілі, што калі яны не супакояцца, то таксама паедуць з міліцыяй, але падышло яшчэ больш народу. «Яшчэ адзін хлапец патлумачыў, што я не меў адносінаў да бойкі», — дадаў маладзевы актывіст.

Па ягоных падліках, падышлі яго абараняць больш за дзесяць чалавек, абсалютна да гэтага часу яму незнаёмых. А самі «разборкі» цягнуліся блізу гадзіны, за якую міліцыянеры правяралі дакументы і лаяліся... Праўда, адпусцілі.

## Фотафакт




**У сеціве з'явіўся новы плакат культавага беларускага творцы Уладзіміра Цэслера. Сёлета Дзень Перамогі напоўніўся новымі сэнсамі.**

# Невядомыя зрываюць чырвона-зялёныя сцягі ў Ганцавіцкім раёне

Пра гэта паведамляе газета «Ганцавіцкі час». У самім райцэнтры дзяржаўныя сцягі зніклі з будынкаў дзяржаўных крамаў 1 красавіка і 1 мая. Пасля 9 Мая сцяг знік у вёсцы Задуб'е. Пра чарговае знікненне 11 мая паведаміла загадчыца крамай №47 у Задуб'і Святлана Кананові ч.

Паводле яе словаў, невядомыя знялі сцяг напярэдадні ўначы. Ідэолагі падключылі да пошукаў міліцыю.

# Памэла Андэрсан: У 12 гадоў мяне згвалтавалі

Актрыса Памэла Андэрсан шакавала публіку на Канскім фестывалі. Яна расказала, што ў 12 гадоў яе згвалтавалі. Пасля гэтага ёй ледзьве ўдалося выйсці з дэпрэсіі.





## Сціслa

### Аляксандр Лукашэнка гаварыў з Ксеніяй Сабчак пра развод

Журналістка адзінага расійскага незалежнага тэлеканала «Дождь» Ксенія Сабчак запісала інтэрв'ю з кіраўніком Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Гутарка доўжылася каля трох гадзін! У анонсе адзначаецца, што гаворка пойдзе пра падзеі ва Украіне і Крыме, пра адносіны Беларусі і Расіі, пра справу гендырэктара «Уралкалія» Баўмгертнера, пра адносіны Лукашэнкі з Пуціным, Мядзведзевым і Беразоўскім. І нават пра асабістае жыццё Лукашэнкі. Інтэрв'ю будзе паказана 21 мая.

### Канаплёва судзяць разам з Архіпавым. За неданясенне

Сябар дзяцінства і маладосці Аляксандра Лукашэнкі, экс-спікер палаты прадстаўнікоў і кіраўнік федэрацыі гандбола Уладзімір Канаплёў трапіў пад суд. Ён праходзіць па справе былога намесніка генпракурора Аляксандра Архіпава. Архіпаў «замяў» справу супраць кіроўцы, які збіў насмерць дзяўчыну. За гэта, паводле словаў Лукашэнкі, атрымаў залаты злітак і бутэльку каньяка. Канаплёва абвінавачваюць у «неданясенні».

### Мясніковіч: Традыцыйная мадэль сябе вычарпала

«Вынікі мінулага года і чатырох месяцаў гэтага сведчаць пра тое, што традыцыйная мадэль развіцця прамысловага комплексу вычарпала сябе», — сказаў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

### Прыпынкі ў гонар Кірылы Тураўскага і Васіля Цяпінскага

з'явяцца ў Мінску. 26 мая ў сталіцы перайменуюць шэраг прыпыначных пунктаў грамадскага транспарту. Так, прыпынак «Сквер» на вуліцы Каліноўскага атрымае назву «Тураўскага», а «Пасёлак Азярышча» на а/д Н-9067 будзе называцца «Цяпінскага».

### На «Чыжоўка-Арэне» адабралі швэдар з Бяляцкім

19 мая быў затрыманы шведскі праваабаронца Роберт Хорд. Пры сабе ў сумцы Хорд меў швэдар з выявай палітвязня Алеся Бяляцкага.

«Прыбягае туды начальнік аховы, нешта трымаючы ў руках, кажа:

— Ведаеце, Роберт, у нас традыцыя абменьвацца майкамі. Давайце я вам падару сваю, а вы мне аддасцё вашу.

— Не, — кажа Роберт. — Я паважаю вашы традыцыі, але хачу сваю майку пакінуць сабе.

Паўза.

— Тады вымаць будзем.

— А на якой падставе?

— Яна радыяцыйная...

На гэтым фінал, майку забралі.

Ну што ж — і гэта таксама беларуская традыцыя», — іранізуе Таццяна Равяка.

### Хлопца асудзілі на 15 сутак за раздачу ежы бедным

Алеся Курца затрымалі 17 мая падчас раздачы ежы бедным у межах традыцыйнай акцыі «Ежа замест бомб». Асудзілі ж нібыта за лаянку.

**ЗП, ІА**

# З'явіліся новыя бясплатныя курсы беларускай мовы

Зрабіць першы крок насустрач роднай мове стане яшчэ прасцей. Ад 22 мая ў Мінску пачнуцца новыя бясплатныя курсы беларускай мовы **«Моваведа»**. Ладзіць заняткі будзе філолаг **Аляксей Шэін.**

«Я арганізоўваў курсы беларускай мовы ў 2008—2012 гадах. Яны так і называліся — «Курсы беларускай мовы». Пасля пяці сезонаў заняткаў, праз якія прайшло некалькі сотняў чалавек, курсы сышлі ў адпачынак.

Цяпер было вырашана аднавіць курсы, але каб адмежавацца ад «Мовы ці кавы» і «Мовы нанова» давялося прыдумаць назву — «Моваведа».

Аляксей кажа, што курсы падыдуць для любога зацікаўленага ў беларускай мове чалавека:

«На курсах «Моваведа» не будзе складанага і сумнага, не будзе нудоты кшталту вывучэння граматыкі. «Моваведа» — гэта не курсы, дзе вучаць новай мове. Беларусы ведаюць беларускую мову, бо, калі размаўляеш з беларусам па-беларуску, ён разумее. Аднак беларуская мова знаходзіцца ў пасіве. І мая задача — перавесці мову з пасіва ў актыў.

З уласнага досведу скажу: каб перайсці на беларускую мову, пачаць бачыць сны беларускай мовай, патрэбна каля трох месяцаў. Гэта калі чалавек вырашыць: вось, пачынаю ад сёння».

Прыйсці на курсы «Моваведа» можна проста так, без папярэдняй рэгістрацыі. Шэін абяцае насычаныя заняткі з дыскусіямі, дэбатамі, займальнымі тэстамі і, вядома, цікавымі гасцямі. Першым на занятак завітае акцёр Купалаўскага тэатра **Павал Харланчук**.

Заняткі будуць праводзіцца з 22 мая штočацвер а 19-й гадзіне ў канферэнц-зале на 3-м паверсе бізнэс-цэнтра **«Валеа»** па адрасе: **вул. Ф. Скарыны, 12**. Найбольш зручна ехаць ад ст. м. «Маскоўская» на аўтобусах №25, 34, 64 да прыпынку «Каледж сувязі» (6 прыпынкаў ад метро).

**Кірыла Хілько**

Цэны на свініну і кураціну сталі свабоднымі і павялічыліся.

# «Дзяржава робіць нас вегетарыянцамі»

Асноўная тэма для абмеркавання ў крамах і на рынках — падаражанне мяса. Не паспелі беларусы прывыкнуць да новых цэнаў на свініну, як урад на 10% падняў кошт кураціны.

Чаму даражэе мяса? Паводле афіцыйнай статыстыкі, у беларускіх сельскагаспадарчых арганізацыях па стане на сакавік 2014 года заставалася ўсяго 2,7 мільёна свінняў. Праз афрыканскую чуму пагалоўе зменшылася за год на 700 тысяч свінняў. Калгасы адгружаюць менш свініны на мясакамбінаты, тыя не давозяць мяса да крамаў. Як вынік, продажы ўпалі на тыя ж 20%.

Недахоп свініны можна было б кампенсаваць за кошт імпарту. Але не ўдалося. Як падлічыў Белстат, летась Беларусь купіла замежнай свініны на $250 мільёнаў, перадусім у Польшчы. У першыя месяцы 2014 года імпарт скараціўся ўдвая. А пасля таго, як у заходняй суседцы былі знойдзеныя ачагі захворвання свіной чумой, і Расія, і Беларусь цалкам адмовіліся ад польскай свініны.

Хоць цэны ў той жа Польшчы нашмат меншыя. Напрыклад, у гіпермаркеце «Тэска» за кілаграм нарэзанай свініны без костак (глядзі фота) просяць усяго 19 злотых — гэта каля 62 тысяч рублёў.

У Беларусі ж цэны толькі нядаўна «вырваліся на свабоду». Ад 25 сакавіка Міністэрства эканомікі больш не рэгулюе максімальныя адпускныя цэны на свініну і ялавічыну. Абмежаванні цяпер датычацца толькі максімальнай гандлёвай надбаўкі.

Ягор Марціновіч



**Што думаюць мінчукі пра падаражанне свініны?**



«Свініна і раней была не па кішэні. Я медработнік, заробкі ў нас не вельмі высокія. На курыцах мы жылі, і цяпер на кураціне таксама... А так часам кавалачак нечага смачненькага купіш».



«Я ўжо даўно яе не ўжываю. І па стане здароўя, і недапушчальная раскоша. Чаму даражэе? Гэта залежыць ад нашай дзяржавы, якая дрэнна пра нас клапоціцца».



«Пагалоўе свінняў выразалі праз чуму. Ну і пад еўрапейскія цэны падстройваемся».



«Я і не купляла свініну, таму і не ведала нават. Буду больш есці рыбы і курыцы».



«Нашая дзяржава ўскосна клапоціцца, каб мы ўсе сталі вегетарыянцамі».

Апытваў Мікіта Недаверкаў

## «Еўраопт» адкрыў інтэрнэт-краму

Прадукты будуць дастаўляць дадому са зніжкай.

Нішу прадуктовых інтэрнэт-крамаў, якая стала свабоднай пасля банкрутства сэрвісу «ДоДівана», заняла сетка «Еўраопт».

Інтэрнэт-замова пакуль што даступная толькі для жыхароў Мінска. Кліентам прапануецца выбраць тавараў на суму не менш за 300 тысяч рублёў у анлайн-каталогу і чакаць дастаўку. Пры гэтым цэны будуць на 5% ніжэйшыя, чым у гіпермаркеце «Еўраопт».

Пакупнікі не змогуць набыць праз інтэрнэт-краму толькі алкаголь і цыгарэты. Галоўная нязручнасць першых дзён працы — няхуткая дастаўка. Прадукты і нехарчовыя тавары можна замовіць толькі на наступны дзень.

ЯМ

«Еўраопт» — найбуйнейшая прыватная гандлёвая сетка Беларусі, у яе ўваходзіць больш за 230 крамаў.

## Юрый Чыж стане перавозчыкам таксі на «Джылі»?

Мільянер выкупіў кампанію «Легаўтатранс» з жоўтымі «Волгамі».

Адна з бізнэс-структур мільянера Юрыя Чыжа стала ўласніцай кампаніі «Легаўтатранс». Паводле дадзеных Беларускай валютна-фондавай біржы, у снежні 2013 года пакупніку атрымалася сабраць пакет з 55,6% акцый, заплаціўшы каля $1,7 мільёна.

Раней аснову «Легаўтатранса» складала служба таксі, вядомая жоўтымі «Волгамі». Аднак цяпер гэтых машын засталося каля 40 штук. Больш за тое, да канца года астатнія «Волгі» збіраюцца парэзаць на металалом. «Легаўтатранс» спецыялізуецца на рамонце і тэхабслугоўванні аўтамабіляў, аказвае паслугі і тэхагляду. Кампанія валодае вялікай пляцоўкай на вуліцы Ціміразева ў Мінску, дзе знаходзіцца гараж на 2 тысячы машын.

Разглядаецца магчымасць стварэння на базе кампаніі буйнога аператара таксі, аснову парку якога складуць беларуска-кітайскія Geely.

Год таму ўлады выношвалі планы па стварэнні на базе аднаго з аўтапаркаў Мінска буйнога дзяржаўнага перавозчыка таксі. «Парк машын, магчыма, будзе складацца з аўтамабіляў беларуска-кітайскай вытворчасці», — казаў віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін.

Паводле Tut.by




Жоўтыя «Волгі» нагадвалі турыстам савецкія часы.

## Прадпрымальнікі не адстаялі свае патрабаванні

Гандлярам давядзецца мець суправаджальныя дакументы на ўсе тавары.

Пасля некалькіх месяцаў перамоваў прадпрымальнікаў і ўлады Аляксандр Лукашэнка ўсё ж падпісаў указ №222 «Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі».

Дробныя гандляры не здолелі адстаяць сваё галоўнае патрабаванне. З 1 ліпеня 2014 яны павінны мець дакументы, якія пацвярджаюць набыццё тавараў для рэалізацыі. У якасці кампенсацыі ім дазваляецца прадаваць да 1 сакавіка 2015 года рэшткі тавару, набытага яшчэ падчас дзеяння старых правілаў, без суправаджальных дакументаў. Вось толькі давядзецца правесці вопіс гэтых рэшткаў у падатковай.

Акрамя таго, іпэшнікам вярнулі права наймаць на працу работнікаў. Дазволена працаўладкаваць трох чалавек, незалежна ад родназных сувязяў.

ЯМ

### Сцісла

**МТС даражэе на 8%**

З 26 мая расійскі мабільны аператар павялічвае тарыфы на абаненцкую плату, а таксама званкі ўнутры сеткі. А вось званкі на нумары іншых аператараў, роўмінг і кошт інтэрнэту застануцца ранейшымі.

**Прадаецца чвэрць «Гродна Азота»**

Дзяржаўны камітэт па маёмасці абвесціў конкурс на продаж блакуючага пакета акцый «Гродна Азота» (25% + 1 акцыя). Мінімальная цана пакета вызначаная на ўзроўні $414 мільёнаў. Грошы павінны пайсці на мадэрнізацыю прадпрыемства. Ад інвестара патрабуюць не памяншаць заробкі і сацыяльныя гарантыі работнікам на наступныя пяць гадоў.

**З пасажыраў «Мінск-2» возьмуць па $5**

Ад пачатку чэрвеня пасажыры аэрапорта «Мінск-2» будуць выплачваць збор на развіццё аэрапорта. З дзяцей да 12 гадоў папросяць $2,5, з дарослых — па $5. Выключэнне зробяць для транзітных пасажыраў. Летась пасажырапаток аэрапорта склаў 2,2 мільёна чалавек.

**Дзяржынскі механічны завод аддалі Шакуціну**

Холдынгу «Амкадор», падкантрольнаму сенатару Аляксандру Шакуціну, перадаецца Дзяржынскі вопытны механічны завод, які раней належаў дзяржаве. «Амкадор» мае перад дзяржавай абавязак інвеставаць у развіццё стратнага прадпрыемства не менш за $5 мільёнаў.

**Другая кальцавая ўсё ж будуецца**

Банк развіцця Беларусі сёлета прафінансуе будаўніцтва другой кальцавой аўтадарогі вакол Мінска на $40 мільёнаў. Апроч таго, $45 мільёнаў будзе выдзелена на рэканструкцыю цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту «Раўбічы».

**Стаўку рэфінансавання зменшылі яшчэ на 1%**

З 19 мая стаўка рэфінансавання вызначана на ўзроўні 21,5% гадавых. Урад патрабуе ад Нацбанка праціўваць яе зніжэнне, каб рабіць крэдыты для прадпрыемстваў больш даступнымі. Беларусь знаходзіцца на другім месцы ў свеце па велічыні стаўкі рэфінансавання, больш толькі ў афрыканскай Малаві — 25%.

ЯМ

# Былі ў бацькі тры сыны: два хакеісты, а трэці — не

У Беларусі з'явілася **хакейная опера**.

Музей Азгура далучыўся да акцыі «Ноч музеяў», якая прайшла ў Мінску з 17 на 18 мая, нечаканым культурным перформансам. На лядовай пляцоўцы ў парку Горкага познім вечарам суботы публіцы паказалі хакейную оперу «0:1».

Сюжэт оперы камічны, але і нечаканы для беларускага культурнага поля: у сям'і тры сыны, яны лічацца хакейнай дынастыяй, малодшы сын з імем Дэбют займаецца музыкай, не хоча гуляць у хакей і захапляецца Музай. Муза насамрэч не любіць музыку, а любіць хакей. Браты просяць Дэбюта згуляць матч замест хворага гульца, ён пагаджаецца і выходзіць на лёд пад нумарам 13. У дадатковы час Дэбют дакранаецца да Музы, нешта пераадольвае і забівае вырашальную шайбу...

«Па форме «0:1» нагадвае класічную італьянскую оперубуф. У ёй можна знайсці барочныя алюзіі і цалкам сучасныя музычныя рашэнні», — расказала кампазітар Вольга Падгайская за некалькі дзён да паказу. Лібрэта (літаратурную аснову — **«НН»**) да оперы напісаў Віталь Дарашук.

Усе супадзенні сюжэта выпадковыя — хочацца дадаць, калі разумееш, што дзеянне оперы адбываецца ў часе правядзення чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску на дваццатым годзе прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі... Але гэты культурны праект да свайго паказу падаваўся выключна культурна-масавым і абсалютна апалітычным.

Праект падтрымалі сімфанічны аркестр і хор музычнай капэлы «Санорус» , а таксама салісты Вадзім Сялочнік , Андрэй Якушаў , Сяргей Даўгушаў і Кацярына Зуева. Пастаноўка оперы праводзілася сіламі музыкаў і музея імя Азгура , які арандаваў пляцоўку «Юнацтва». Хаця сярод арганізатараў у афішы значыліся і Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы Мінгарвыканкама, і Адміністрацыя Партызанскага раёна, і нават хакейны клуб «Юнацтва». Квіткі на оперу і начную праграму былі не танныя — ад 170 да 200 тысяч.

Чэргаў перад паказам у парку Горкага не назіралася. Кошт квіткоў і сюжэт оперы былі яўна не на карысць шырокай аўдыторыі. Масавы глядач запаланіў праспекты ў цэнтры сталіцы і дзівіўся на традыцыйныя скарбы мінскіх музеяў.

Сімфанічны аркестр размясціўся проста на хакейнай пляцоўцы. Побач была чырвоная дарожка. Рэха і акустыка лядовай арэны яўна не спрыялі класічнаму ўспрыманню оперы, але тым цікавей было разумець, што ўсё гэта незвычайны эксперымент у беларускім мастацтве і, верагодна, у нашай штодзённасці таксама. «Хакейны» кантэкст у Беларусі, увогуле, і мінскі чэмпіянат свету, у прыватнасці, дадавалі свой каларыт у гэты твор. А потым па лёдзе пабеглі людзі...

На лёдзе пачалася камічная валтузня з клюшкамі без шайбы. Рэха аркестра на лядовай арэне яшчэ больш блытала і задавала сюррэалістычны тон усяму, што адбывалася на лёдзе. Усе гэта доўжылася хвілін 20. Нешматлікая публіка, здавалася, была ці то агаломшана незвычайнасцю пастаноўкі, ці то застыла з неразуменнем на тварах і проста чакала, калі ўсё скончыцца. Затым галоўны герой Дэбют, спатыкаючыся, у ганарлівай адзіноце, пакуль былі ўсе занятыя валтузнёй і імправізаванай бойкай, забіў шайбу ў вароты галавой... У часе паказу адна пара сышла з арэны. Некаторыя гледачы са смехам каментавалі, што яна «падалася, мякка кажучы, сумнай», а хтосьці з усмешкай сказаў, што гэта «сапраўдны сюр».



Аркестр пасля оперы «0:1», пад скрыгатанне канькоў, граў яшчэ больш за гадзіну — пачаліся начныя катанні ўсіх ахвотных наведнікаў арэны ХК «Юнацтва». З халоднай коўзанкі людзі выходзілі на вуліцу, каб пагрэцца. Дзесьці далёка грымела музыка з зоны гасціннасці ля Палаца спорту... Жартаўлівая опера на хакейную тэму скончылася і больш не паўторыцца. Ужо непатрэбная афіша на дзвярах арэны ў парку Горкага паведамляла, што гэта быў«адзіны паказ». А праз некалькі дзён пасля адзінай прэм'еры жартаўлівай оперы на сайце музея Азгура ў архіве падзей нават не засталося ўзгадкі пра гэты праект — старонка была выдалена. Бо, відаць, няўдалы жарт можа заўсёды кагосьці пакрыўдзіць і жартаўніку лепш пра яго забыць. Але яшчэ горай, калі жарт застаецца незразумелым.

**Сяргей Гудзілін, фота аўтара**

# «Шкада пацыентаў, але што я зраблю?»

Міхась — малады доктар, які адпрацоўвае першы год размеркавання тэрапеўтам у адной з мінскіх бальніц. Нумар бальніцы Міхась называць не хоча — яму «яшчэ працаваць», аднак ахвотна дзеліцца падрабязнасцямі нялёгкага жыцця прыёмнага аддзялення.

### Сыходзяць, з'язджаюць

«Прыёмны пакой — гэта першае месца, куды прывозяць людзей. Пацыентаў у нас заўсёды шмат. Калі я толькі пачаў працаваць, прыёмнае аддзяленне было ўкамплектаванае амаль на 100%.

Аднак неўзабаве загадчыца аддзялення пайшла ў дэкрэтны адпачынак. Затым звольнілася яшчэ адна доктарка, якая працавала ў прыёмным на палову стаўкі. Яна прабыла ў нас два месяцы і сказала: «Выбачайце, але гэта не для мяне». Была яшчэ адна доктарка з Барысава, аднак яна з'ехала ў Індыю з мужам. Людзі не трымаюцца працы ў бальніцы.

У выніку ў прыёмным аддзяленні застаўся я, яшчэ адна доктарка—малады спецыяліст — і новая загадчыца аддзялення. Але загадчыца неўзабаве з'ехала ў Польшчу да свайго мужа. Фактычна ў аддзяленні працавалі два з паловай чалавекі — і гэта на 4,5 стаўкі!»

### Загадчык паняволі

«Калі сышла загадчыца прыёмнага аддзялення, на яе пасаду прызначылі мяне. Пры тым што юрыдычна я не маю права займаць такую пасаду: у мяне няма ні другой катэгорыі, ні досведу працы. Такім чынам, з сярэдзіны снежня да пачатку мая мы працавалі ўдваіх, і я быў і тэрапеўтам, і загадчыкам аддзялення. Усе астатнія дзяжурствы «раскідвалі» паміж супрацоўнікамі тэрапеўтычнага блока.

Аднак графік усё адно не закрываўся, хоць я цягам чатырох месяцаў не працаваў менш за 260 гадзін, а два месяцы ўвогуле па 300 гадзін. Тады ўжо прымушалі разбіраць дзяжурствы — упісвалі прозвішчы ў графік. А там ужо чалавек ці выходзіў, ці не выходзіў, ці аддаваў дзяжурствы мне ці сваім калегам».

### Трое сутак на дзяжурстве

«Заробкі ў прыёмным пакоі трошкі вышэйшыя за іншыя аддзяленні. За 300 гадзін у якасці тэрапеўта я атрымліваў каля 7,5 мільёна рублёў. Калі быў яшчэ і загадчыкам — каля 9 мільёнаў. Аднак трэба ўявіць, што такое працаваць у прыёмным пакоі 300 гадзін у месяц. А цягам дня на аднаго доктара можа прыходзіцца больш за сотню пацыентаў. Пасля такой працы хочацца толькі прыйсці дадому, паесці і легчы спаць.

Аднойчы я ўступіў на дзяжурства ў пятніцу а 8-й раніцы і скончыў працу ў нядзелю а 9-й раніцы. За ўвесь гэты час мяне падмянілі толькі аднойчы на 8 гадзін, то бок я працаваў няспынна 2,5 сутак. Уявіце сабе стан доктара і якасць аказання медыцынскай дапамогі. Так атрымалася, бо раптоўна, не прапрацаваўшы і колькі месяцаў, звольніўся малады доктар, і я, як загадчык аддзялення, мусіў забраць сабе ўсе «незакрытыя» дзяжурствы. Калі ж працаваць на стаўку, зарабіць атрымліваецца 4,5 мільёна ў месяц».

### «Браць па 5 тысяч — добрая ідэя»

«Цяпер сітуацыя ў нашым прыёмным аддзяленні палепшылася, аднак персаналу ўсё адно не хапае. У гэтай сітуацыі вельмі шкада хворых. У сярэднім людзі чакаюць аказання медыцынскай дапамогі 1,5—2 гадзіны, аднак бываюць выпадкі, калі час даходзіць да 4 гадзін! Горад рыхтавалі да чэмпіянату па хакеі, дык няўжо не маглі вырашыць такое вострае кадравае пытанне?

Аднак ёсць і іншы бок. Трэба працаваць з насельніцтвам і змяняць стаўленне людзей да медыцынскай дапамогі. Напрыклад, была ініцыятыва браць невялікія грошы за візіт у паліклініку. Здаецца, па 5 тысяч з чалавека. Я цалкам падтрымліваю такі крок, бо чалавек падумае, ці трэба яму звяртацца ў медыцынскую ўстанову.

Вялікая колькасць пацыентаў, што выклікаюць хуткую дапамогу і якіх у выніку прывозяць да нас, — людзі з абвастрэннямі хранічных захворванняў. Але ж хранічнае захворванне не ўзнікае раптоўна, і людзі мусяць ведаць, як жыць з ім і як яго лячыць.

Узяць, напрыклад, старых людзей, якія пастаянна выклікаюць «хуткую». Хтосьці не п'е прапісаныя лекі і не выконвае прадпісанні дактароў. Вядома, пенсія ў нас мізэрная, але навошта купляць на свае грошы лекі, калі можна патэлефанаваць у «103», да цябе прыедуць, дадуць табе медыкаменты? Могуць шпіталізаваць, а калі адмовяць — можна папрасіцца ў бальніцу. Там паляжыш колькі тыдняў з харчаваннем і пад доглядам. Ці хтосьці п'е лекі, але па ўласным настроі. У мяне бабуля такая: хворая на цукровы дыябет, яна не робіць, што ёй прапісалі, а сёння прыме тое, заўтра тое...

Фельчары «хуткай» не могуць адмовіцца прыязджаць нават туды, дзе заведама не патрэбна іх дапамога. Таму «хуткую» тэарэтычна можна выклікаць колькі заўгодна. Але звычайна ўжо пасля другога выкліку вязуць да нас, у прыёмны пакой».

**Кірыла Хілько**

# Швейцарскі гадзіннік, сталовыя прыборы і $100 тысяч

Колькі дабра **канфіскавалі ў чыноўніка**?

Былога намесніка старшыні канцэрна «Белнафтахім» Уладзіміра Воўкава адправілі за краты. Суддзя не паверыла ў яго шчырасць.

«Прызнаць вінаватым у прыманні службовай асобай, якая займае адказнае становішча, для сябе матэрыяльных каштоўнасцяў, якія перадаваліся выключна ў сувязі з займанай ім пасадай за спрыяльнае вырашэнне пытанняў, што ўваходзяць у яго кампетэнцыю... І прызначыць пакаранне ў выглядзе 8 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці ... з адбыццём пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму», — канстатавала суддзя Кузняцова. Па дадатковым грамадзянскім пазове з Воўкава будзе спагнана $18 тысяч на карысць дзяржавы.

Справы супраць высокіх чыноўнікаў, як паказвае практыка, не заканчваюцца апраўдальнымі прысудамі. Нягледзячы на тое, што мала хто з іх прызнае сябе вінаватым.

Што ж канфіскуюць у Воўкава? 425 850 рублёў, 550 еўра, 8970 расійскіх рублёў, $91 717, планшэт, падарункавы чамадан для сервіроўкі стала, швейцарскі гадзіннік, гараж, дзве кватэры ў сталіцы...

Многа гэта ці мала для высокага чыноўніка, чыю пасаду можна прыраўняць да міністэрскай — усёткі працаваў у ключавой для краіны галіне, нафтаперапрацоўчай? Яшчэ на судзе Уладзімір Воўкаў адзначыў, што са жніўня 2000 да затрымання ў кастрычніку 2013, як падлічыў, зарабіў $230 тысяч. Кватэру на вуліцы Шаранговіча набыў за $21 тысячу, на Томскай — за $93 тысячы (браў крэдыт, які выплаціў), гараж — за $3 тысячы. Гадзіннік — падарунак на юбілей. А па арыштаваных сумах патлумачыў, што $64 тысячы — грошы зяця, аматара гульняў: узяў на захаванне. Астатняе — прыватны «сацыяльны фонд».

Ці элітныя кватэры ў Воўкава? Звычайныя трохпакаёўкі, далёка ад цэнтра сталіцы. Абедзве — па 77 квадратных метраў. Кватэру на Шаранговіча ён пабудаваў у 2002 годзе. На другасным рынку такая кватэра сёння каштуе не менш за $100 тысяч. На вуліцы Томскай экс-чыноўніка набыў трохпакаёўку ў 2008 з прыцягненнем крэдыту на $63 тысячы (цяпер такая таксама каштуе каля $100 тысяч). А паміж кватэрамі была купля гаража.

Сярод арыштаванай маёмасці чыноўніка раней фігураваў яшчэ і «БМВ», які Воўкаў ацаніў у $20 тысяч. Але ў выніковы спіс на канфіскацыю машына не трапіла. Прысуд можа быць абскарджаны.

**Сяргей Макарэвіч**


SVABODA.ORG

**Кемлівы начальнік**

Расследуецца крымінальная справа супраць былога начальніка Віцебскага абласнога ўпраўлення Дзяржпрамнагляду. «Абвінавачваны на працягу апошніх гадоў сістэматычна даваў распараджэнні падначаленым пра складанне фальшывых загадаў пра яго камандзіраванне ў розныя гарады краіны. Пасля чаго атрымліваў грошы ў якасці кампенсацыі нібыта панесеных ім камандзіровачных выдаткаў», — паведаміла прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова.

Таксама ён за працоўныя грошы запраўляў сваю і дачную машыны, для ўласных аўто арандаваў гаражы, для асабістых мэтаў выкарыстоўваў службовы транспарт і прыцягваў падначаленых.


RITUAL.BREST.BY

# Вяскоўцы зладзілі патасоўку з міліцыяй, каб адбіць самаробны трактар

Канфлікт мог скончыцца звычайным штрафам, а цяпер **пагражае рэальнай адседкай**.

Жарсці разгарэліся 9 мая ў вёсцы Страдзічы Брэсцкага раёна. Інспектар ДАІ заўважыў, як самаробны трактар без нумароў ехаў па дарозе. Паспрабаваў яго спыніць, але кіроўца праігнараваў патрабаванне, а толькі завярнуў да сябе на падворак. Інспектар паехаў за ім для складання пратакола. Хацеў выклікаць і эвакуатар, каб трактар адбуксіравалі на штрафстаянку. Гаспадару пагражаў толькі штраф. Пакуль у справу не ўмяшаліся яго сваякі.

Гаспадар не захацеў аддаваць трактар. Для абароны выклікаў аднавяскоўцаў. І расказвае сваю версію здарэння: маўляў, трактар стаяў у гаражы ў той дзень, а ездзіў на ім зрэдку і толькі на падворку. Камусьці з начальства муляла вока тэхніка, і інспектара адправілі канфіскаваць яго. А той пакрыўдзіўся, што да яго звярнуліся на «ты». Калі схапіліся загрудкі, выклікаў падмогу. Дваіх вяскоўцаў хацелі забраць у пастарунак, але за іх заступіліся сваякі: яны машынамі перакрылі выезд міліцыянтам. Калі пад'ехаў эвакуатар, каб расцягнуць аўто, у іх паселі дзеці — эвакуацыя немагчымая. Разблакавалі ж выезд міліцыі, толькі калі тыя адмовіліся забіраць трактар.

Цяпер Следчы камітэт расследуе крымінальную справу за гвалт альбо пагрозу гвалтам у адносінах да супрацоўніка органаў унутраных спраў. Інспектару нібыта разбілі нос у штурханіне. А гэта ўжо пагроза рэальнай адседкі.

**СМ**

# Беларускага «гастралёра» затрымалі на Смаленшчыне

28-гадовы беларус выехаў у Расію, каб выправіцца, але зноў **трапіў за краты**.

Хлопец толькі ў чэрвені 2013 вызваліўся з калоніі ў Беларусі. І ў Оршы яго паставілі на ўлік: выязджаць без дазволу міліцыі з горада не мог. Але ўжо ў жніўні накіраваўся ў Смаленск. Зняў там кватэру, меркаваў і на працу ўладкавацца. Але звычкі ўзялі верх — разышоўся напоўніцу. Каб хутчэй зарабіць і атрымаць разлік, скраў ровар за $200. Адразу ж прадаў яго. Грошай хапіла на пару дзён. Тады залез у чужую машыну. Толькі і гэтага было мала. У знаёмай прадавачкі сцягнуў ключ ад крамы. Неўзабаве з касы знікла каля $850.

Пры грашах ён паехаў да брата ў Веліжскі раён. І ўжо там, праламаўшы сцяну ў краме, скраў грошы, прадукты, алкаголь і парфуму. Меў усё, акрамя машыны. Але і гэтую праблему здолеў вырашыць. У гасцях у сябра скраў ключы ад яго аўто, а пасля саму машыну (яе, праўда, вярнулі ўласніку). Калі беларуса затрымалі, адпірацца не стаў. А ў дадатак напісаў заяву з прызнаннем пра крадзяжы ў роднай Беларусі. Судзіць яго будуць у Расіі.

**Кастусь Матушыч**

**Затрымалі і праз 13 гадоў**

У Расіі на мінулым тыдні затрымалі 41-гадовага беларуса, якога шукала паліцыя Турцыі. Яшчэ ў 2001 годзе, як мяркуюць следчыя, ён з саўдзельнікамі выкраў чалавека і забіў яго. Труп закапалі, а машыну ахвяры спалілі. І з'ехалі з Турцыі. А трапіўся беларус праз 13 гадоў у Маскоўскай вобласці: даішнік спыніў яго аўто для праверкі дакументаў, а кіроўца аказаўся ў вышуку па лініі Інтэрпалу. Цяпер знаходзіцца пад арыштам і чакае экстрадыцыі.

## Сцісла

**Згулялі ў ножыкі**

У Ваўкавыску мужыкі выпівалі і гулялі ў ножыкі: па чарзе тыкалі сабе паміж пальцаў. Калі ж скончылі забаўляцца, нож падзяліць не змаглі. Адзін выпівоха стукнуў другога ў сцягно і зачапіў артэрыю: той і сканаў на месцы.

**Асудзілі за голы азадак**

Інцыдэнт адбыўся ў Баранавічах, у більярдным клубе ноччу. 21-гадовы жыхар горада адпачываў з сябрамі. «Па словах абвінавачанага, паміж ім і знаёмай адбылася спрэчка, ці можа дзяўчына сустракацца з некалькімі мужчынамі адначасова. Гараджанін абразіў знаёмую, а потым павярнуўся і дэманстратыўна агаліў ягадзіцы», — распавялі ў пракуратуры. Учынак быў расцэнены як хуліганства. Падчас суду ён патлумачыў свае паводзіны тым, што быў п'яны, і раскаяўся. Паколькі абвінавачаны раней ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці, суд даў яму аж паўтара года калоніі. Праўда, з выпрабавальнай адтэрміноўкай на год і 6 месяцаў.

**Пасадзілі мінёра**

На чатыры гады ў калонію адправіцца маладзечанец, які паведаміў пра мініраванне школ горада. 5 верасня 2013 года ў 11 навучальных устаноў Маладзечна ён разаслаў лісты з патрабаваннем пералічыць $10 тысяч на электронны кашалёк. У супрацьлеглым выпадку пагражаў узарваць школы. Кашалёк жа зарэгістраваў на знаёмага, якога хацеў такім чынам падставіць.

**Шматдзетны бацька абрабаваў пошту**

Здарэнне адбылося ў вёсцы Халхоліца Барысаўскага раёна. Мужчына ў масцы наставіў пісталет на супрацоўніцу пошты і запатрабаваў грошы. 19-гадовая дзяўчына, абараняючыся, пырснула з газавага балончыка, але ў адказ атрымала па галаве пісталетам. Рабаўнік забраў з касы 15 мільёнаў рублёў. Затрымалі яго ўжо праз гадзіну ў суседняй вёсцы. Ім аказаўся 43-гадовы бацька пяцярых дзяцей. На рабунак пайшоў праз нястачу і пазыкі па крэдытах.

**Трапіліся высокія чыноўнікі**

Затрыманыя два намеснікі старшыні Гомельскага аблвыканкама. Крымінальную справу на іх завялі за злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Акалічнасці справы ў Следчым камітэце пакуль не агучваюць.

**Немаўля скінулі з 5-га паверха**

Ноччу 17 мая з акна аднаго з інтэрнатаў Баранавічаў выкінулі паўгадовага хлопчыка, які ад атрыманых траўмаў памёр. Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрыманы сябра маці, які сцвярджае, што нічога не памятае, бо быў п'яны. Сама жанчына ў гэты момант дома адсутнічала.

**КМ**

# Жанчыну вылечылі ад раку з дапамогай віруса адру



Дактары амерыканскай клінікі Мэё ў горадзе Рочэстар (штат Мінесота) падчас медыцынскага эксперыменту змаглі поўнасцю пазбавіць 49-гадовую Стэйсі Эрхальц ад невылечнай множнай міеломы — агрэсіўнага раку, які ўзнікае ў касцявым мозгу чалавека.

Эрхальц хварэла на рак 10 гадоў, калі лекары прапанавалі ёй выпрабаваць эксперыментальны метад лячэння. Працэдура заключалася ва ўвядзенні пацыентцы гіганцкай дозы адмыслова мадыфікаванага віруса адру, падобнага да віруса для прышчэпак.

Паводле паведамленняў амерыканскіх СМІ, дозы, уведзенай Эрхальц, хапіла б на прышчэпкі для 10 мільёнаў чалавек.

Пасля ўвядзення віруса тэмпература Эрхальц паднялася да 40,5 градуса Цэльсія, у яе назіраўся моцны галаўны боль, сутаргі і ваніты. Аднак Эрхальц не захварэла на адзёр і, як высветлілася ад раку — злаякасная пухліна ўжо 9 месяцаў знаходзіцца ў стане поўнай рэмісіі.

Разам з Эрхальц у эксперыменце бралі ўдзел яшчэ 5 чалавек, аднак для іх лячэнне стала безвыніковым.

У медыцыне апісаныя выпадкі змяншэння ці вылечвання ад злаякасных пухлінаў пасля эпідэмій адру.

Аднак сур'ёзнае вывучэнне ролі віруса адру ў лячэнні раку пачалося пасля гісторыі 8-гадовага хлопчыка з Уганды, які хварэў на злаякасную лімфому Бёркіта. Хлопчыка рыхтавалі да хіміятэрапіі, калі заўважылі, што ён падчапіў адзёр. Цягам двух тыдняў вялікая пухліна цалкам знікла.

Хоць гісторыя віратэрапіі — лячэнне вірусамі — налічвае не адзін дзясятак гадоў, дактары кажуць, што Стэйсі Эрхальц стала першай пацыенткай, у якой атрымалася вылечыць рак, распаўсюджаны па ўсім целе.

**Кірыла Хілько**

# Аляксандр Глеб развёўся з Настассяй Касянковай

Фотамадэль, былая салістка гурту «Топлес» Настасся Касянкова зрабіла смелую фотасесію для чэрвеньскага нумара часопіса «Дынама» і дала шчырае інтэрв'ю, у якім прызналася, што іх шлюб з Аляксандрам Глебам разарваны.

Pressball.by звярнуўся па каментар да экс-жонкі найлепшага футбаліста краіны, які быў зусім кароткім: «Мы правялі разам 7 гадоў, выдатна вывучылі адзін аднаго і, мяркую, пакінем толькі добрыя ўспаміны пра наш шлюб».

Аляксандр Глеб — найлепшы беларускі футбаліст XXI стагоддзя. Пагуляў у такіх выдатных камандах, як «Барселона», «Арсенал», «Штутгарт» і інш.

**ЛМ**




# Выдавецтва «Логвінаў» аднавіла працу

Праўда, **з літоўскай рэгістрацыяй.**



У Вільні Ігар Логвінаў зарэгістраваў арганізацыю «Літаратурны дом «Логвінаў», што займаецца выдавецкай дзейнасцю.

Нядаўна пад гэтай маркай выйшла кніга Паўла Севярынца «Беларуская глыбіня», якую склала публіцыстыка са старонак «Нашай Нівы». Ігар расказаў, што кніга друкавалася ў Мінску, але па замове літоўскага выдаўца.

Сёлета запланаваны выхад шэрагу кніжак: «Жыццё ў праўдзе» Вацлава Гавала, «Дзве авечкі» Вольгі Гапеевай, «Байцоўскі клуб» Чака Паланіка, перавыданні «Шляху-360» Алеся Разанава і «Так» Уладзіміра Някляева.

Выдавецкай ліцэнзіі Ігара Логвінава пазбавілі за выпуск альбома «Прэс-фота Беларусі — 2011», які суд прызнаў экстрэмісцкім. Цяпер прэтэндаваць на новую беларускую ліцэнзію ён можа не раней за кастрычнік 2014.

**СМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Праз межы

...Мая маці — Маня, Марыя, Маруся, Марыя Міхайлаўна, Манюня, — малодшая пасля двух братоў і двux сясцёр, выйшла замуж у 1924 годзе. У пятнаццаць з паловай. Памежнік з заставы на савецка-польскай мяжы звёз яе ўглыб Калужскай губерні, у вёску Чэрцень.

Падобна на тое, што бацькі, то бок мае дзед Міхайла і бабуля Соф'я, не пярэчылі. Гэта дзіўна, бо ва ўсім, што тычылася хрысціянскай маралі, дзед Міхайла, царкоўны вартаўнік, быў вельмі крутога нораву. Але ў мястэчку ўжо панавала рэвалюцыйная мараль. Нават назва змянілася — з Мікалаёва на Луначарскае.

Праз год, у 1925-м, дзед Міхайла і бабуля Соф'я памерлі.

Не тое, каб я нічога не ведаў пра першае замужжа маці. Але пра хуткі пасля таго сыход дзеда Міхайлы і бабулі Соф'і зазнаў упершыню, калі яна прывезла мяне на радзіму. Адбылося тое ў 1959 годзе. Мне ўжо васямнаццаць, студэнт...

На радзіму маці прыехала, каб адшукаць магілы бацькоў.

Могілкі, на якіх месцічы спрадвек хавалі памерлых, прыгожа ўзвышаліся над скрыжаваннем шляхоў да найбліжэйшых вёсачак і да Дрысы, то бок сучаснага Верхнядзвінска. Падчас страшэнных паводак, якімі стагоддзямі наводзіла жах Заходняя Дзвіна, людзі шукалі паратунку менавіта на могілках, сярод продкаў...

Шукаць магілы маіх продкаў дапамагала Юлька, сяброўка матулінага дзяцінства, адзіная нітачка, што яшчэ звязвала яе з радзімай. «А ё... твaю матухну! — сустрэла «нітачка» сяброўку, кінуўшы плуг, лейцы і задаволенага выпадковым спачынкам каня. — Дзе ж ты згубілася?!»

Яны не бачыліся амаль 30 гадоў, з таго часу, як маці кінула свайго былога памежніка, вярнулася з дачушкай Маяй у Луначарскае і хутка з'ехала адтуль у Мінск, вучыцца ў Камуністычным інстытуце журналістыкі, больш вядомым як КІЖ...

«Здаецца, тут...» — Юлька адхінае зараснік бэзу, што ўжо буяе паміж векавых соснаў. Але нічога, што нагадвала б магілы, не бачна, аніякіх узвышшаў... «Што ж, — адгукаецца маці, — хай будуць тут...»

Замаўляць помнік мы накіроўваемся ў Дзісну, якраз насупраць Луначарскага, на левы бераг Заходняй Дзвіны. Паром цяжка пераадольвае быстрак. «Бачыш вунь тыя прысады ўздоўж берага? Яшчэ дзецьмі мы глядзелі, як шпацыравалі па іх польскія афіцэры з дамамі...»

Маці сумна ўсміхаецца, а я амаль фізічна адчуваю, як упершыню маё жыццё пераадольвае нейкую хвалюючую загадкавую мяжу.

...1973 год, пачатак мая. Мы з маці едзем на «масквічыку» паўднёвай шашой на Маскву, ад Смаленска праз Раслаўль — маці хоча наведаць Чэрцень, адкуль як з'ехала на пачатку 30-х,

**Мая маці была моцная характарам і, нягледзячы на маленькі рост, дужая фізічна**

так ніколі ўжо тамака і не была. Хто там жывы, не ведае. Але ў Чэрцені магіла Рэмы, другой дачкі.

Пра сястрычку Рэму, што сямігадовай памерла ад шкарлятыны, я чую ўпершыню...

Ад галоўнай шашы — дваццаць кіламетраў ушчэнт павыбіванага асфальту. На ўездзе — драўляная арка, увітая дзеразой, з чырвонай зоркай наверсе, намаляванымі паабапал гербамі горада і прызыўным надпісам «Добро пожаловать в старинный русский город Мосальск!».

Гумавыя боты ў багажніку. Яны заўсёды там, бо бацькі — заўзятыя рыбакі. Але пад аркай з гасцінным запрашэннем выйсці з машыны немагчыма — гразь, у якой патанулі Напалеон і Гітлер, праз шчыліны ўжо трапіла ў салон. Інтэлігентна кажучы — па самыя вушы...

Паратунак клічуць Васяткам. Немаведама якога ўзросту, у бліскучым шэрым гарнітуры, белай кашулі з амаль развязаным гальштукам і рудым капелюшы на тырольскі манер. Крычыць нешта неразборлівае, махае рукой, у другой гойдаецца авоська з апельсінамі... Задзірае калашыны, дабіраецца да нас. «Зараз, зараз, — супакойвае і працягвае руку, — Васятка». Потым лезе ў кішэню: «Шклянкі ёсць?» А як жа, у бардачку. Васятка шчодра разлівае па шклянках «Маскоўскую»: «Ну, за перамогу!» Закусваем апельсінам. «Не хвалюйцеся, тут унізе асфальт, гэта коламі нацягалі... Чакайце, я хутка...» Праз паўгадзіны Васятка цягне нас на «Беларусе» да гасцініцы. З-пад колаў плёскае рэдкая гразь, ляпае па шкле. Каго ні ўбачыш праз каламуць, ва ўсіх авоські з апельсінамі, у каго і з «Маскоўскай». Масальск святкуе Дзень Перамогі...

«Да раніцы, — развітваецца Васятка, — раніцай адцягну...» — «А ў Чэрцень не дацягнеш?» — «Не, туды ніхто не дацягне. Нават па п'янцы...»

Прачынаюся сярод ночы — з матулінага ложка чуецца стрыманы плач... І зноўку маё, здавалася, ужо асэнсаванае жыццё праз несуцішны боль маці пераадольвае яшчэ адну таямнічую мяжу...

Мая маці была моцная характарам і, нягледзячы на маленькі рост, дужая фізічна, магла спраўляць любую сялянскую працу.

У чэрвені 1941-га яна пешшу, на шостым месяцы цяжарнасці, данесла мяне аж да Магілёва. І далей, да Казані...

Што б ні здаралася, з тае ночы ў Масальску я больш не бачыў, каб маці плакала. Нават на пахаванні майго бацькі. Толькі збялелы твар.

Але гэта ўжо іншая гісторыя, іншыя межы, з іншымі стратамі і набыткамі.

Межы часу, памяці і бязмежнага болю...

# Зміцер Дашкевіч: На Акрэсціна радаваліся, калі хакеісты прайгравалі

Пасля 25 сутак арышту на волю выйшаў былы палітвязень Зміцер Дашкевіч. Яго затрымалі 24 красавіка, адным з першых у шэрагу затрыманняў перад чэмпіянатам свету па хакеі.

Сустрэць Змітра ля варот ізалятара часовага ўтрымання сябрам не далі. Дашкевіча на міліцэйскай машыне проста адвезлі дадому.

«Чэмпіянат свету па хакеі — галоўная падзея для жыхароў ізалятара. 90% там знаходзіцца якраз праз чэмпіянат. Яшчэ калі ў сакавіку былі арыштаваны за пікетаванне расійскага пасольства, то чуў, што РУУС у кожнага раёна дадзена распараджэнне затрымаць да ста чалавек. А Завадскому нават 200, каб ля «Чыжоўка-Арэны» не было ніякіх падазроных элементаў.

На прагулках бачыў, што было вельмі шмат жанчын. Кажуць, што звезлі ўсіх з панэляў і саметровак. Акрэсціна ў гэтыя дні запоўнена цалкам, трашчэла па швах, таму частку затрыманых нават адпраўлялі ў жодзінскі ізалятар.

Не дзіўна, што ў такой сітуацыі арыштанты радаваліся, калі чулі па радыё пра паразы зборнай.

Усіх палітычных размеркавалі па асобных камерах. Толькі на прагулцы мог бачыць Міколу Дземідзенку і Міхася Мускага. Спачатку сядзеў у камеры на 10 чалавек. Уявіце, калі нават пяцёра з іх пачынаюць курыць, а вокны зачыненыя, то што там робіцца. Вокны адчыняць адмаўляліся. Толькі пасля маіх скаргаў перавялі ў «двухмесны нумар».

Тролі пішуць, што мы самі нарываліся на затрыманні. Але іх пазбегнуць было абсалютна немагчыма. Наш сябра Зміцер Юшкевіч з'ехаў да бацькоў у Слонім, дык яго там знайшлі. Мікола Дземідзенка адправіў на адпачынак жонку і дзіця, сам збіраўся да іх, але затрымалі і асудзілі на 20 сутак. Дзяніс Карноў даўно не займаецца палітычнай дзейнасцю, распачаў сваю справу, але прыйшлі і да яго. Я ж нават у вёску ці куды яшчэ не з'еду, бо знаходжуся пад прэвентыўным арыштам, таму мне было яшчэ цяжэй.

На Акрэсціна ўсё па звыклым рэжыме. Пад'ём а шостай раніцы. У 10:30 даюць сняданак. А 16 — абед, у 17:30 — вячэру. Чаму такі малы прамежак паміж абедам і вячэрай? Бо іх завозяць у адзін час. Ездзіць два разы ў сталовую па ежу лічаць немэтазгодным.

Калі адвезлі ў РУУС з ізалятара, то міліцыянты сказалі, што ў выпадку яшчэ аднаго папярэджання на мяне будзе завезеная крымінальная справа».

**Зміцер Панкавец**



SVABODA.ORG

Дашкевіч з жонкай Настай у першыя хвіліны пасля вызвалення.



# Найлепшыя чэмпіянату

### Найлепшы бамбардзір — Віктар Ціханаў

Гэта ўнук і поўны цёзка славутага трэнера Віктара Ціханава (фота зверху). Аднак да гэтага года на хакеіста мала хто звяртаў сур'ёзную ўвагу. Пагуляў сезон у НХЛ, а таксама ў ніжэйшых паўночнаамерыканскіх лігах. А апошнія тры сезоны выступае за піцерскі СКА. Быў у расійскай заяўцы на Алімпіяду, але праводзіў на пляцоўцы зусім мала часу. На мінскім чэмпіянаце Ціханаў прыносіць расійскай зборнай больш карысных дзеянняў, чым нават Авечкін. У Віктара 7 шайбаў + 6 галявых перадач.

### Найлепшы варатар — Кевін Лаланд

Не палохайцеся прозвішчы гэты пазітыўны хлопец гуляе зусім не за Канаду, а за... Беларусь. Тры гады таму канадскія хлопцы Кевін Лаланд і Джэф Плат вырашыўлі прыняць беларускае грамадзянства. Мінскі чэмпіянат — першы, у якім яны могуць прымаць удзел. Лаланд правёў тры сустрэчы, і ва ўсіх нашыя аказаліся мацнейшымі за супернікаў. Ягоны працэнт адбітых кідкоў — 95,5.







### Самы грубы — Каспар Даўгавіньш

Латыш у шасці гульнях набраў 40 штрафных хвілін. У хакеі такіх звычайна называюць «тафгаем». Гэта той гулец, што здольны пабіцца на лёдзе за сваіх хлопцаў, калі іх нехта крыўдзіць. У Беларусі некалі таксама быў свой «тафгай»: Алег Мікульчык доўгія гады лічыўся самым грубым хакеістам першынства Расіі.

### Галоўная сенсацыя — Францыя

Пару гадоў таму, калі беларусы саступілі Францыі, то ў прэсе праскоквала зняважлівае — «Прайгралі разносчыкам піцы». На гэтым жа чэмпіянаце французы выйгралі ў Канады і Славакіі і ўпершыню з 1997-га выйшлі ў плэй-оф. А да гэтага такі поспех да «трохкаляровых» прыходзіў аж у 1937-м. Французскія хакеісты гуляюць па ўсім свеце ад Канады да Расіі.

### Сярэдняя наведвальнасць — 9,5 тысяч

На момант падпісання нумара ў друк чэмпіянат наведалі 435 тысяч чалавек. 291 тысяча — «Мінск-Арэну» і 144 — «Чыжоўку». Тым не менш, гэта не самы наведвальны чэмпіянат у гісторыі. У 2004-м на пляцоўках Чэхіі сярэдняя наведвальнасць складала — 9,8 тысяч чалавек.

**ЗП**

**Каментар**

# Хакей даў разуменне, што губляць дзяржаву нельга

Перад пачаткам чэмпіянату не збіраўся ісці на хакей. Справа ў тым, што я бываў на хакеі шмат разоў. На катку ў парку Горкага, на Прытыцкага, у Палацы спорту. Ніводнага разу мне хакей жыўцом не спадабаўся. Кепскае асвятленне, не бачна шайбы, убогія дзкарацыі, пашарпанае шкло, холад. Я думаў, што хакей ён заўсёды такі. Элітарны спорт, які здольныя ацаніць толькі ісцінныя вычварэнцы (закрэслена) гурманы. Таму перастаў хадзіць на арэны, але штовясну глядзеў па тэлебачанні чэмпіянаты свету.

Сябра ўсё ж угаварыў схадзіць на гульню. Абралі сустрэчу Швецыя — Нарвегія на «Чыжоўка-Арэне». Тое, што я пабачыў, прыемна здзівіла. Зручна, камфортна, цёпла і галоўнае — усё бачна як на далоні! «Арэна» сапраўды створаная для людзей. І наведвальнікі рэальна кайфуюць. Шчаслівыя нарвежцы спявалі ў холе, беларусы не прапускалі магчымасці сфоткацца са скандынаўскім «Абеліскам», каларытным вусачом. Для людзей — гэта свята. Для нашых, для турыстаў.

Не расказвайце мне аб прэвентыўных затрыманнях актывістаў і палітвязнях. Цудоўна ведаю пра іх існаванне. Я шмат разоў падымаў гэтыя тэмы, у тым ліку перад Лукашэнкам, калі здарыцца магчымасць, то буду падымаць зноў. Я лічу ганебным, што сёння ў сярэднееўрапейскай краіне саджаюць за краты за палітычныя погляды. І мая пазіцыя нязменная. Ад наведвання хакея я не пачну лічыць Статкевіча і Бяляцкага «бандытамі», а выбары 2001, 2006, 2010 — сумленнымі і справядлівымі.

Магчыма, я быў у вялікай эйфарыі, але падалося, што ЧС — гэта ўсё ж свята простых людзей, а не дыктатуры.

Калі вяртаўся з Чыжоўкі дадому, то двое паддатых пацаноў разважалі: «Мы ўзялі чатыры сцяжкі — два нарвежскія і два шведскія. А адзін нарвежскі парваўся. І я сказаў, што лік будзе 2:1 на карысць Швецыі. І так сталася. Прабачце мне, калі ласка. Зрэшты, усё гэта х...ня. Галоўнае — каб Беларусь перамагала».

Я далёкі ад думкі, што спорт можа стаць нацыянальнай ідэяй. Але спартовыя перамогі добра развіваюць у людзях патрыятызм. Усім падабаецца, калі твае суайчыннікі «дзяруць» немцаў, рускіх і фінаў. Хай гэта і патрыятызм «ніжэйшага гатунку», самае яго першаснае праяўленне. Але галоўнае слова тут «патрыятызм», а ўсё астатняе — дадаткі.

Добра помню, як у 2000-м го-дзе (мне 14 гадоў) у мяне дома сабралася чалавек дзесяць сяброў. І мы ўголас адлічвалі апошнія 100 секундаў гульні Беларусь — Расія на чэмпіянаце свету па хакеі ў Піцеры. Нашы перамагалі 1:0, кідаліся мужна пад шайбы, адбіваліся ад атак зорак — Яшына і Бурэ. І перамаглі.

Гэта было настолькі крута, што цяжка нават растлумачыць словамі. Тая перамога засела ў мяне ў памяці нават лепш за славутую гульню са шведамі на Алімпіядзе. Гонар за краіну перапаўняў нас у той дзень. І мне здаецца, ужо тады несвядома пачало з'яўляцца разуменне, што губляць сваю краіну і дзяржаўнасць нельга, нават дзеля такіх дробных момантаў, як хакейныя перамогі.

**Зміцер Панкавец**

**Вы згодныя з такой думкай? Пішыце на nn.by**

# «За дэстабілізацыю маральна-псіхалагічнага клімату»

На што **скардзіцца афіцэр** міліцыі?

У Рэдакцыю прыйшоў ліст ад былога супрацоўніка міліцыі Аляксандра Сачнёва. У 2000-м ён скончыў Акадэмію МУС. Але кар’ера, якая адразу складалася някепска, закончылася, калі паскардзіўся міністру.

«З 2000 па 2005 я працаваў следчым, ад 2005 да жніўня 2012 — на пасадзе старшага оперупаўнаважанага па асабліва важных справах Галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку КМ МУС. З верасня па кастрычнік 2012 працаваў участковым інспектарам Фрунзенскага РУУС (19.10. быў звольнены па пагадненні бакоў). Даслужыўся да падпалкоўніка».

У чэрвені 2012 Аляксандр напісаў ліст-скаргу міністру ўнутраных спраў. Што супрацоўнікі МУС (цэнтральнага апарату) будуюць кватэры з прыцягненнем ільготных крэдытаў, а затым іх здаюць альбо і ўвогуле яны пустуюць. «Я меркаваў, паколькі яны не жывуць у іх, значыцца, не адносяцца да тых, хто мае патрэбу. Мой знаёмы міліцыянт з жонкай і двума малалетнімі дзецьмі туліцца ў аднапакаёўцы, а чарга на будаўніцва яшчэ як далёка. Праз такіх «кемлівых» афіцэраў яму давядзецца чакаць доўга. Таксама ў лісце я ўказаў, што начальнік галоўнага аддзела крымінальнага вышуку ў 2010 па асабістым распараджэнні міністра Куляшова знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Віцебску. Але падчас камандзіроўкі ад’язджаў у Мінск, не выязляючы нумар гасцініцы. Адсутнічаў 3-4 дні. У сталіцу ён ездзіў, каб зарэгістраваць шлюб: у такім разе ён захоўваў чаргу на атрыманне двухпакаёўкі. У справаздачных дакументах ён як пазначыў увесь тэрмін камандзіроўкі, з улікам дзён, што правёў у Мінску. Грошы за пусты нумар гасцініцы і суткавыя аплаціла дзяржава».

«Па выніках праверкі па маім звароце, якую праводзіла Галоўнае ўпраўленне асабістай бяспекі МУС, у адносінах да мяне прынята наступнае: «панізіць на пасадзе за парушэнне службовай дысцыпліны, што выявілася ў здзяйсненні дзеянняў, накіраваных на дэстабілізацыю маральна-псіхалагічнага клімату ў Галоўным упраўленні крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі МУС і дыскрэдытацыю падраздзялення перад кіраўніцтвам МУС, а таксама праяўленую падчас праверкі няшчырасць». Напэўна, лепш было б прамаўчаць, тады працягнуў бы працу. Але ў міліцыю я прыйшоў асэнсавана».

Аляксандр падаў пазоў у суд з патрабаваннем, каб з паслужнога спісу выключылі ганебную фармулёўку. Але яму адмовілі: прапусціў тэрміны на абскарджванне. «Але прадстаўнікі МУС на судзе адзначылі, што пададзеныя мной у звароце факты пацвердзіліся толькі адносна неабгрунтаванага атрымання суткавых супрацоўнікам. Маўляў, у дакументы афіцэр унёс няправільныя звесткі праз няўважлівасць.

І з якога афіцэра мне браць прыклад? З таго, хто на правах начальніка ігнаруе распараджэнне міністра, а пасля «забываецца» вярнуць дзяржаве грошы? Альбо таго, хто пабудаваў па льготным крэдыце кватэру, здае яе і зарабляе на гэтым? Сам — ільготнік, жыву ў пабудаванай у крэдыт кватэры. Будаваў, бо не было дзе жыць. Рамонт раблю да сёння».

Мужчына абураецца няшчырасці былых калегаў. «І так робяць людзі, якія ўдзельнічаюць у стварэнні і рэалізацыі законаў».

**Кастусь Матушыч**

## Пра нябожчыка або добра, або нічога

У «Нашай Ніве» ад 14 мая быў надрукаваны артыкул «На Браншчыне разбіўся прарэктар Гомельскага ўніверсітэта».

Каротка прыводзяцца звесткі аб Сяргею Ханеню: 50 год, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, прарэктар па выхаваўчай рабоце. А далей пішацца, што пры ім быў адлічаны з універсітэта моладзёвы актывіст Зміцер Жалезнічэнка і што ён судзіўся з «Народнай воляй».

Я працую выкладчыкам у Гомельскім універсітэце. Мы з Сяргеем Ханенем, мякка кажучы, не сябравалі. Але я схадзіў на паніхіду па ім і памаліўся за яго.

Усё, што напісана ў артыкуле, — праўда. Можна напісаць значна больш. Але чалавек памёр. Загінуў трагічна, адносна маладым. Засталася сям’я.

І ў сувязі з гэтым хачу нагадаць, што ў нас, беларусаў, пра нябожчыкаў прынята гаварыць толькі добрае. Безумоўна, у тых палітычных умовах, якія цяпер створаны ў Беларусі, цяжка быць лагодным. Але ўсё павінна мець свае межы, нават палеміка.

Давайце будзем вышэйшымі, давайце захоўваць маральную перавагу над нашымі апанентамі.

**Віктар Адзіночанка, Гомель**

**Водгукі**

## Ліпкі і глёўкі

Чытаючы «НН» за 22 студзеня, заўважыў на старонцы 7 «білі шкло ў аўтамабілях і забіралі маёмасць». Так і не зразумела, нашто білі тое шкло. Вандалы!

А мо білі «шыбы», бо калі аўто не вязе шкло, то ўсё ж мае вокны з шыбамі.

У артыкуле пра хлебапёка праз старонку чытаю «ліпкі мякіш». Хлеб і, адпаведна, мякіш, бывае «глёўкі», ліпкімі бываюць мокрыя трусы.

Гэта гэтак жа недарэчна, як і з «бухты-барахты» Міколы Бугая, хоць рэдакцыя і мусіла паправіць тое на «з кандачка». Так харашэй і словабагашчай.

**Мікалай Бусел, Дуброва (Светлагорскі раён)**

**Фотафакт**



## Альпіністы фарбуюць купалы глыбоцкага Кафедральнага сабора

Глыбокае рыхтуецца да свайго 600-годдзя.

Гэтымі днямі альпіністы фарбуюць купалы Глыбоцкага сабора Нараджэння Прасвятой Багародзіцы Полацка-Глыбоцкай епархіі.

Трэба адзначыць, што гэты храм — колішні касцёл кляштара кармелітаў, які быў зачынены пасля актыўнага ўдзелу манахаў кармелітаў у паўстанні 1863 года і перададзены праваслаўным. Сабор — адна з самых вядомых цікавостак Глыбокага, які часта наведваюць турысты.

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**

**Абмеркаванне на nn.by**

# Новая палітычная сітуацыя

У «НН» №18 быў надрукаваны каментар праграміста Ігара Маханька. На сайце nn.by гэтая публікацыя выклікала шырокую дыскусію. Прапануем вашай увазе некаторыя меркаванні.

### Пераседзець

Трэба захаваць спакой і нэйтралітэт. Магчыма, калі на ўсходзе Украіны пачнецца сапраўдная бойня, нам удасца пераседзець.

**Underwood**

### Запісвайцеся на зборы

Усё досыць проста — трэба рабіць тое, што зрабіў я ў мінулую восень. Увосень пачынаюцца чарговыя вайсковыя зборы. Таму:

1. Тэлефануеце ў ваенкамат і даведваецеся (калі не памятаеце) сваю вайсковую спецыяльнасць. Выказваеце жаданне пайсці на зборы.
2. У верасні атрымліваеце павестку і прыходзіце ў ваенкамат.
3. Едзеце на зборы на 3 тыдні.
4. Падчас збораў вучыцеся, займаецеся вайсковай справай, крыху пастраляйце, папіце гарэлкі і паразважайце з калегамі пра палітыку.
5. Інфармацыя аб вашых думках будзе даведзена кім патрэбна куды патрэбна. Не бойцеся, вам нічога за гэта не будзе. Іх асноўная мэта — проста даведацца пра настрой у людзей.
6. Наверсе зробяць пэўныя высновы. Таму, чым болей патрыётаў прыйдзе на зборы, тым лепей.

**BonScott**

### Толькі бел-чырвона-белы

Іншага варыянта адраджэння, як пад бел-чырвона-белым сцягам, няма. Бо чырвона-зялёны, ухвалены некалі самім Сталіным, — гэта сцяг рабства, прыгнёту, расійскай акупацыі.

А Ігару раю супакоіцца: Расея зусім не такая магутная, як яна сябе паказвае па тэлевізары. І пры вашым жыцці яна разваліцца, і мы займеем свой шанец!

**Рубон**

### Размаўляць па-беларуску

Што рабіць? Размаўляць па-беларуску. Працаваць. Над тым, каб расла колькасць прыхільнікаў незалежнасці, бел-чырвона-белага сцяга, беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай. Без ідэі нацыянальнага адраджэння ў галаве ніхто рускім супраціўляцца не будзе.

**Аляксей**

### Што важней?

Сябры, адкажыце для сябе на пытанне, што для вас мае большую вартасць: нянавісць да Лукашэнкі і яго рэжыму ці любоў да Беларусі. І перачытайце артыкул яшчэ раз.

**Зюзя**

### Хай пакуль чырвона-зялёны

Толькі што прайшла навіна, што ў Ганцавіцкім раёне знікаюць сцягі. Нейкая вельмі нядобрая асацыяцыя, хай пакуль што вісяць гэтыя чырвона-зялёныя, як-ніяк нашыя, чым, брррр, чужыя. Пасля ўкраінскіх падзеяў ужо неяк лагадней глядзіш на недарэчнае спалучэнне колераў, можна вытрываць.

**Лучнік**

### Яны ніколі не будуць за незалежнасць

Прыхільнікі лукашызму і «закату над балотам» ніколі не будуць змагацца за Беларусь. Гэта людзі, якія мысляць у катэгорыях разумення Беларусі як расейскай губерні. Многія з іх саму незалежнасць успрымаюць як недарэчнасць.

**Сяржук Міхайлаў**

### Інтарэс асабісты і інтарэс дзяржаўны

Абсалютная большасць праблем у грамадстве — ад карупцыі ды адсутнасці незалежнага (г.зн. нейтральнага для ўдзельнікаў) права. Калі беларусы здольныя вырашаць агульныя пытанні — хіба нават як мінчукі, гарадзенцы ці чыжоўцы з грушаўцамі, — тады і нацыю здольныя пабудаваць. Калі ўсе «самі за сябе» — аднное жывёлы ў стойлах шматпавярхавікоў, — тады і ўсё адно, як завуць таго, што там на партрэце і якія сцягі. А пытанні простыя — дзіцячы садок, паліклініка, дарогі, двары — любая бытавая турбота. Якую зараз спісваюць — «хай гасударства зробіць».

Дзе сканчваецца ваш інтарэс — пачынаецца інтарэс іншых. Беларусы лёгка аддаюць усё.

**JJ**

### Разбурэнне менталітэту

Чырвона-зялёны сцяг ніколі не аб’ядноўваў і не будзе аб’ядноўваць беларусаў, бо ён адзін з элементаў гвалтоўнай русіфікацыі і разбурэння беларускага менталітэту і беларускай дзяржавы.

**Бенедыкт**

### Не вылучацца

У Беларусі адзінае выйсце: Лукашэнка павінен адмовіцца ад удзелу ў наступных выбарах і не вылучаць свайго пераемніка — вядома ж, калі ён любіць Беларусь і шануе незалежнасць сваёй Радзімы.

**Ranen**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб’ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Штосьці не так: галоўную ролю ў фільме «Авель» сыграе зорка «Плэйбоя»

Трэйлер скандальнага беларускага фільма **паказалі ў Канах**.

У беларускім павільёне падчас 67-га Канскага кінафестывалю, які адбываецца 14—25 мая, паказалі трэйлер фільма «Мы, браты», анансаванага як «Авель». Беларускія медыя называюць яго адказам на фільм «Жыве Беларусь!», зняты рэжысёрам Кшыштафам Лукашэвічам пры ўдзеле Франака Вячоркі. У ім таксама паказаныя беларускія падзеі 2010-га.

**«Майдан» у Канах**

Акцэнтам Канаў сталі ўкраінскія падзеі. У фільме «Грэйс, прынцэса Манака», якім адкрыўся фестываль, крытыкі заўважылі намёк на сённяшнія падзеі ў Данбасе. Сюжэт: Францыя спрабуе анексаваць Манака. Адзін з акцёраў, Цім Рот, сказаў, што сапраўды перажывае за падзеі ва Украіне. Кіраўніцтва Манака адмовілася прыехаць на прэм'еру, назваўшы фільм непраўдзівым. Украінскі павільён упрыгожаны майданаўскай ялінкай, каскамі і бронекамізэлькамі з надпісам «Прэса» ў знак салідарнасці з пацярпелымі журналістамі. У павільёне працуюць дзяўчаты, якія былі валанцёркамі на Майдане. Украінцы прэзентавалі тры дакументальныя стужкі пра апошнія падзеі і фільм «Майдан» беларуска-ўкраінскага рэжысёра Сяргея Лазніцы, які трапіў у афіцыйную праграму кінафестывалю.




Наташа Алам знялася каля постара фільма «Мы, браты» ў Канах.

Трэйлер пачынаецца з вулічных пратэстаў у Мінску, падобных да падзеяў Плошчы, сутычак са спецназам, затрыманняў. Мужчына аблівае сябе бензінам, некалькі аўтамабіляў выбухаюць і перакульваюцца. Напрыканцы відэа Эрык Робертс працягвае дакументы ў бок камеры са словамі: «Усё тут».

У прэзэнтацыі трэйлера бралі ўдзел генеральны прадзюсар стужкі, бізнэсмен Сяргей Ждановіч, прадзюсар Юры Ігруша, рэжысёр Уільям дэ Віталь.

Пасля паказу трэйлера Ждановіч распавёў, што фільм «Мы, браты» — праект беларускі, нацыянальны, які мае міжнародны статус. Паводле яго, здымкі адбываліся ў Беларусі (80%), але таксама ў ЗША і нават у Мексіцы. Шэраг сусветных кампаніяў, паводле Ждановіча, выказалі жаданне ўдзельнічаць у дыстрыбуцыі стужкі.

Да апошняга моманту захоўвалася інтрыга: хто сыграе галоўную жаночую ролю — амерыканскую журналістку Сару.

**Штосьці не так!**

Папулярны інтэрнэт-мем, які нарадзіўся падчас здымак сцэны масавых пратэстаў у Мінску. Здымачная група загадала масоўцы «Авеля» замест рэальных палітычных лозунгаў крычаць «Штосьці не так!». За гуканне «Жыве Беларусь!» садзілі на суткі.

**Сюжэт «Авеля»**

Ён заснаваны на тэорыі змоваў. Нібыта ёсць арганізацыя, якая захоўвае інфармацыю пра «каінаву пячатку» — адхіленне ў храмасомах, якое штурхае людзей на масавыя забойствы. «Авеліты» (ад імя біблейскага Авеля) ездзяць па свеце і спыняюць забойцаў. Адна з авелітак, журналістка Сара, прыязджае ў Беларусь. Яе мэта — адзін з братоў Анісімавых, які, па звестках арганізацыі, хутка здзейсніць забойства. Браты вельмі розныя: адзін працуе ў спецслужбах, другі — апазіцыянер. Абодва закаханыя ў адну дзяўчыну. У фільме будуць сцэны Плошчы-2010, выбуху ў мінскім метро, будзе фантасмагарычны ісламскі тэрарыст, які душыць сваіх ахвяраў радыёкіраваным «БелАЗам». Фінальныя сцэны разыгрываюцца на нарвежскай выспе Утэя, дзе Брэйвік расстраляў некалькі сотняў чалавек. Там ад яго рук гіне і галоўны злодзей — авеліт-здраднік.

Паводле ўмоваў, гэта мусіла быць кіназорка класа «А», на аплату працы якой — за некалькі здымачных дзён — было выдаткавана 500 тысяч даляраў. Спачатку гучала прозвішча Скарлет Ёхансан. Пасля — Шэран Стоўн.

Але, як высветлілася ў Канах, галоўную ролю сыграе Наташа Алам — малавядомая амерыканская актрыса і мадэль. Наташа нарадзілася ў Ташкенце ў 1983-м, яе дзявочае прозвішча Шыманчук. Яшчэ падчас вучобы ў школе яна знялася на вокладку расейскай версіі «Плэйбоя» і пасля таго пераехала ў Маскву, рабіць кар'еру мадэлькі. У 1998-м яна выйшла замуж за ўнука іранскага шаха — Аміра Ібрагіма Пехлеві Алама. Яны пабраліся ў Нью-Ёрку, пасля жылі ў Лондане, дзе Наташа наведвала акцёрскую школу, пасля ў Лос-Анджэлесе. У 2005 пара развялася, але тытул прынцэсы і прозвішча Алам Наташа захавала. Неўзабаве яна выйшла замуж за ўласніка касметычнай клінікі. Яна здымаецца (у тым ліку аголенай) для глянцавых часопісаў, грае ролі другога плана ў фільмах і серыялах. Такіх, як «Часткі цела», «Атрад «Антытэрор», «Смяротная гульня». Назваць яе актрысай класа «А» складана.

«Наташа Алам — гэта проста ніхто, — абурацца кінасцэнарыст Андрэй Курэйчык. — Змена назвы — вартая жалю спроба схаваць рэпутацыю здымак «Авеля» зімой перад светам: з прымусовымі масоўкамі за чай, арыштамі палітычных актывістаў, беспрасветнай маной і людзьмі, якія рэальна гарэлі ў труках».

# Вельмі добры Вавілон

Выйшаў даведнік па Мінску, якога яшчэ не было. Піша **Сяргей Харэўскі**.




М. Володин Наш старый добрый Вавилон. Прогулки по городу в минских историйках. Мн.: ООО «Медиал», 2014. — 168 с., іл. Наклад 5000.

«Гісторыйкі» Міхаіла Валодзіна не ёсць адной, на нас усіх, праўдаю. Ягоная кніга тчэцца з розных праўдаў. У прадмове аўтар папярэджвае, што ў аповедах «рэчаіснасць мірна суседнічае з фантазіяй, а дакументы — з чуткамі. У іх горад паўстае такім, якім мы яго раней не ведалі... Гэта расповеды пра Мінск і мінчукоў».

Як гэта няпроста і адказна — расказаць пра родны горад. Не пра родны дом, не пра пахі і гукі вуліцы дзяцінства, што жывуць столькі ў тваім сэрцы, колькі памятаеш сябе, а пра цэлы горад. Пра горад, чыя гісторыя змясціла ў сабе столькі лёсаў і столькі падзей, што іх не ахопіць паасобная памяць!

Я з вялікай ахвотаю і шырокай усмешкаю пачытаў, напрыклад, як гасцяў у нашай сталіцы таварыш Жамсарайгійын Самбу, старшыня Вялікага хурала Манголіі, і пра бурны мінскі раман польскага Сталіна — Баляслава Берута, чыё імя ўвекавечылі ў назве вуліцы.

Міхаіл Валодзін параўноўвае Мінск канца XIX — пачатку XX стагоддзя са старажытным Вавілонам, у гуце якога пераплаўляліся мовы і плямёны ў нешта новае, дагэтуль нязнанае. Такіх вавілонаў і вавілончыкаў было багата між Балтыкай і Адрыятыкай, але толькі Мінску наканавана было вырасці ў сотні разоў, да двух мільёнаў людзей, апярэдзіўшы большасць сталіцаў Еўропы! Чаму так сталася? Частку адказаў мы знойдзем акурат у гэтай кніжцы.

Першыя нарысы Міхаіла Валодзіна, названыя самім аўтарам як «гісторыйкі», пабачылі свет у мінулым стагоддзі, у газеце «Имя», затым некаторыя з'явіліся ў альманаху «Монолог». Колькасць непазбежна перарастала ў якасць, усё больш людзей рэфлексавала на гэтыя аповеды, захаплялася, спрачалася, спрычынялася да ягонае працы. Сёння «Минские историйки» — брэнд, з якім Міхаіл Валодзін працуе несупынна.

Якія вынайсці словы, каб, дачытаўшы гэтую кнігу, чытач і сам паверыў табе і падзяліў з табою тваю, такую чалавечную, неаб'ектыўнасць захопленасці? «Прогулки по городу...» складаюцца з чатырох частак-шпацыраў. Аўтар запрашае нас зрабіць няспешны агляд нават і таго, чаго ўжо не ўбачыць ніхто. Кожны з маршрутаў мае ўласную схему-ілюстрацыю, на якой пазначаны самыя істотныя, на думку аўтара, месцы і месцейкі. Старыя фота тут суседзяць з вясёлымі малюнкамі Сяргея Стальмашонка і жартаўлівымі каментарамі. Да прыкладу — партрэт мала знанай у нас імператрыцы-зямлячкі Кацярыны I з забаўнымі сюжэтамі абапал: імператрыца надае фельдмаршальскае жазло Яну Казіміру Сапегу ды надае брату свайму, рамізніку Калу Скаўронскаму, дваранскую годнасць. А вось тут ляжыць павалены стодзіў Сталіна, а тут — кот уважліва чытае аповесць Пушкіна пра Дуброўскага...

Аўтар аб'ядноўвае у суцэльны тэкст дакументальныя і легендарныя мінскія апавяданні, ствараючы незвычайны даведнік па горадзе. У адной пярэстай кнізе знайшліся аднача сна і гід, і зборнік гарадскіх анекдотаў, і міфалагічны даведнік, і аўтарскія эсэ. У выніку паўстае нешта ў жанры (дазволю сабе кулінарную тэрміналогію) *nouvelle cousine* — змяшэнне ведамага з незнаёмым, трагічнага з камічным, рэчаіснага з уяўным.

Аўтар цвёрда трымаецца маршрутаў самага ядра Мінска, вакол якога круціцца галактыка імёнаў — ад імператараў і генсекаў да паэтаў, матэматыкаў і літаратараў з сусветнымі імёнамі. Па мінскіх вуліцах пад руку з чытачамі будуць хадзіць Мальер з Вальтэрам, Манюшка з Дунінымі-Марцінкевічам, Купала з Коласам. Тут вам Пушкін і Эйнштэйн, Дастаеўскі і Талстой, Освальд і Кастра. Вашымі спадарожнікамі будуць габрэі і італьянцы, палякі і расейцы, немцы і французы, нат манголы з кітайцамі. Насамрэч Вавілон!

Дзякуючы творчасці мастака-дызайнера Стальмашонка і вясёлым карцінам Ігара Рымашэўскага, што аздобілі вокладку, мы маем рэдкі, па цяперашніх часах, прыклад высокай кніжнай мастацкай культуры.

Кніга — накладам 5000 экзэмпляраў — двухмоўная, парасейску і па-ангельску. Аўтар спадзяецца выдаць іншую моўную версію кнігі: на беларускай і нямецкай мовах. І менавіта дзякуючы гэтай, а не якой іншай кнізе, уяўленне пра горад складзецца ў найшырэйшай аўдыторыі.

Чым кніга важная? Мінск ад 1930-х аж да 1980-х амаль цалкам выпаў з уласна беларускага нацыянальнага дыскурсу. Толькі ў апошнія савецкія гады пачалася пераацэнка, напрыклад, даваеннай архітэктурнай спадчыны. Цяпер і Іосіф Лангбард, стаўшы персанажам Ігара Бабкова і героем ужо некалькіх фільмаў, у нашым культурным пантэоне займае месца недзе побач з Маркам Шагалам. Мы раслі ў горадзе, які рос разам з намі. А сёння большая частка Мінска — ужо помнікі архітэктуры ці прыклады будаўніцтва мінулага стагоддзя! Толькі зараз мы пачынаем шанаваць гэтую прастору, дараваць ёю і бараніць яе. Архітэктары і інжынеры, скульптары і мастакі, чыноўнікі і будаўнікі, якія стварылі наш горад у сярэдзіне мінулага стагоддзя, ужо не з намі. Пераасэнсаваць іх ролю ў нашай культуры, вызначыць іх месца ў гісторыі беларускай сталіцы яшчэ належыць. І ў гэтым сэнсе кніга Валодзіна запрашае да вялікай размовы.

Мы, у сваім постканіяльным дыскурсе, не бралі за клопат аценіць ролю ў лёсе нашае сталіцы такіх персанажаў, як Захар Карнееў або Фёдар фон Берг. У савецкай літаратуры роля яўрэяў і татараў, палякаў і расейцаў у гісторыі Мінска з-за палітычных меркаванняў замоўчвалася. Але мы тым самым бясконца збяднілі сябе. Дзіва што без «чужых» уплываў нашая гарадская гісторыя выходзіць аднаколернай і нецікавай.

Кніга Міхаіла Валодзіна прапануе нам па-новаму пабачыць той свет, палюбіць яго, зразумець ва ўсёй дыялектычнай непадзельнасці і шматаблічнасці як адно цэлае — Мінск.

# Палёт над буслінам

Вінцэсь Мудроў.
Апавяданне.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На дварэ канец мая, і сонца грэе амаль па-летняму. Мы сядзім з сябрам на траве, прытуліўшыся спінамі да сцэнаў роднай школы, і слухаем, як за акном гугнявіць Элеанора Захараўна Гнядых — дзябёлая кабета, якую вучні міжсобку называюць Ужас. Школьныя вокны разнасцежаны, і чуваць, як у класе зумкаюць мухі і як засоплена дыхае настаўніца. Элеанора Захараўна мае сем пудоў вагі і ў спёку цяжка дыхае.

— Стихотворение Сергея Михалкова «А что у вас» нам прочтёт... — Ужас, праўдападобна, перагарнула старонку класнага журнала, — Нюра Конопелько.

Я тыцкаю сябра локцем. Нюрка — ягоная малодшая сястра, якая вучыцца ў другім класе.

— «Кто на лавочке сидел, кто на улицу глядел...» — зычна пачала Нюрка, ды Ужас яе перапыніла.

— Конец урока, всё прочесть не успеешь. Начни вот с этого места: «Всех важней, сказала Ната...»

— «Усех важней, сказала Ната, —
Мама вагонауважаты...»

— Вагоновожатый, — паправіла настаўніца, аддзьмухнуўшыся.

— «Мама вагона... важаты,
Патаму што да Зацэпы
Водзіть мама два прыцэпы...»

— Прицепа, — незадаволена папраўляе Ужас.

— «Патаму што да Зацэпа
Водзіць мама два прыцэпа...»

— До Зацепы! — голас Элеаноры Захараўны прыкметна дрыжыць.

— «Патаму што да Зацэпы...» — ледзь чутна выдыхае Нюрка, і Элеанора Захараўна са стогнам прамаўляе сваё ўлюбёнае слова:

— Ужас...

У класе запаноўвае ціша, якую знянацку парушае здушаны зык: усё адно як штосьці булькнула ў сажалцы. Гэта Элеанора Захараўна чхае. Дзіўны ў яе атрымліваецца чых, не такі, як у нармальных людзей: паветра не вырываецца вонкі, а захрасае недзе ў грудзіне. І зіркачы пры гэтым лезуць з вачніц.

Мішка мружыцца на сонца, лыпае вейкамі і таксама чхае, ды так, што над нашымі галовамі бразгаюць просвы — Элеанора Захараўна зачыніла акно.

З апошняга ўрока нас адпусцілі — захварэла русічка. Але мы з сябрам дахаты не ідзем. Чакаем званка. Лёшка Гнядых, сын той самай Элеаноры Захараўны, прынёс у школу цікавую штуковіну. Пластмасавая ручка, унутры шпуля з лёскай; на яе насоўваюць прапелер і, калі тузануць за лёску, прапелер шугае ў вышыню. Цацку Лёшку прывёз з камандзіроўкі бацька — сівагаловы маёр, які страшэнна падабаецца вясковым кабетам. На перапынках між урокамі Лёшка запускаў круцёлку, даваў пускаць пяцікласнікам, але да нас з Мішкам чарга так і не дайшла. І вось мы сядзім ды чакаем, калі ў Лёшкі скончацца заняткі. Сябар прагне даведацца, як тая штуковіна змайстравана, і ці то жартам, ці то ўсур'ёз мерыцца згламэздаць такую ж.

Сядзець і чакаць званка ўжо няма ніякіх сіл, таму — каторым разам на дзень — дастаю з кішэні нататнік. Скураны, яшчэ не пацёханы, з азбукай Морзэ на адваротным баку вокладкі — я знайшоў яго надоечы ля клуба, і нават ведаю, хто згубіў. Кінамеханік Лябёдка! Бо там алоўкам былі напісаныя назвы «кінаў» і даты, калі іх будуць круціць. Я, вядома, гэтыя старонкі акуратна выдзер. Цяпер вось, як надараецца вольная хвіліна, завучваю азбуку Морзэ. А калі казаць шчыра, пацвельваю з сябра, бо ў яго такога нататніка няма.

Мішка хіліцца на мой плячук, шапоча аднымі вуснамі: «Кропка — працяжнік — «А», у гэты міг лена бомкае званок і мы падхопліваемся на ногі.

Першымі са школьных дзвярэй вылятае малеча. Мы стаім ля ганка, цікуем Лёшку і чуем пагрозлівы, з водценем перапуду, голас Элеаноры Захараўны:

— Конопелько! Где твой пионерский галстук?

Лёшкава маці выйшла з бакавых, «настаўніцкіх», дзвярэй і свідруе Мішку сваімі ўедлівакалючымі вачыма.

Сябрук выцягвае з кішэні пакамечаны гальштук, і Элеанора Захараўна, пляснуўшы далонямі, выдыхае:

— Ужас!

Лёшка Гнядых выкульваецца са школы ў атачэнні гаманкой грамады.

— Лёш, дай запусціць, — гукаюць навокал, і Лёшка паважнай хадою ідзе ў бок старых панскіх прысадаў, што ўзбоч дарогі. На вялікім перапынку круцёлку пускалі ля самай школы, і яна заляцела на дах.

— Лёша, куды ты пайшоў? Зараз будзе аўтобус! — крычыць услед яму Элеанора Захараўна.

«Гарадскіх» — так мы называем шкаляроў, што жывуць у ваенным гарадку, — штодня падвозіць дахаты зялёны вайсковы аўтобус.

Ужас яшчэ спрабуе дакараць Мішку Канапельку, але той не слухае: бяжыць за Лёшкам, хапае за рукаво.

— Пускаць не буду. Дай толькі паглядзець...

Сябар аглядае штуковіну, зазірае ў шчыліну, з якой тырчыць лёска, і з крыкам «Усё ясна!» запускае круцёлку ў неба.

У канцы цяністых прысадаў нас даганяе аўтобус і накрывае аблачынай шэрага пылу. Праз пыльную смугу мы бачым, як Лёшка Гнядых, прыціснуўшы нос да шыбы задняга акна, крывіць гімору. Маўляў, я еду, а вы пехам шнуруеце. Ды нам што... прайсціся такой парой на другі бок вёскі — адно задавальненне. Гэта вунь Ленка Кудзелька з нашага класа — пяць кіламетраў тупае, ды ўсё лесам.

— Я надоечы ў Невель ездзіў, да стрыечнага брата. Дык у яго такая ж круцёлка... — сябар керхае, сплёўвае пыл з языка.

— Як у Лёшкі? А дзе купіў?

— Ды не купіў, — незадаволена крывіцца сябрук, — сам зрабіў. І лётае не горай ад Лёшкавай. Я быў запусціў, дык круцёлка таксама на дах заляцела. І не такой хаціны, як наша школа, а трохпавярховага дома. Так адтуль і не дасталі. Давялося новую выразаць.

— А з чаго выразалі? — я кідаю на сябра недаверлівы позірк, і Мішка, крэкнуўшы, сядае на кукішкі.

— У нас пад страхой стары серп уторкнуты. Дык вось, выцягваю з яго ручку, — сябар малюе пальцам на пяску штосьці дарэшты невыразнае, — упіхваю аловак, на аловак насоўваю шпулю ад нітак, на шпулю намотваю лёску, — Мішка малюе даўжэзную рысу, — а прапелер выразаю з кансервавай бляшанкі... толькі, — сябар падымаецца на ногі, чухае макаўку, — бляшанку трэба ад тушонкі, яна большая.

Я гляджу на Мішкавы крамзолі і нічога не разумею.

— Ну што тут незразумелага? — азываецца сябар і пачынае маляваць схему ўжо не пальцам па пяску, а рукамі ў паветры. — Аловак абразаем, на аловак набіваем невялічкі шпянёк — у мяне дома такі валяецца, — на шпень насоўваем прапелер, і застаецца толькі тузануць за лёску.

— І што — паляціць?

Мішка дакорліва хітае галавой.

— І высока?

Сябрук глядзіць на бокі, маракуючы — на якую вышыню можа заляцець круцёлка, — прыкладае далонь да лба.

— А вунь да той буслянкі даляціць.

У канцы вясковай вуліцы, непадалёк ад Мішкавай хаты, стаіць старая ліпа з кудлатым гняздом на вершаліне.

— Да буслянкі? — крыўлю я смяшлівую гімору, і Мішка, зразумеўшы, што перабраў з вышынёй, чухае ўжо не макаўку, а патыліцу.

Я выцягваю з кішэні нататнік, ляпаю ім па далоні.

— Калі даляціць да буслянкі — так і быць, запісная кніжка твая.

Сябар цягнецца за нататнікам, нібыта паглядзець — ці вартая рэч угавору, але я адводжу руку.

— А ты мне што дасі, як не даляціць?

— Патрон! — не раздумваючы, выпальвае Мішка. Надоечы ён знайшоў у лесе ржавы патрон, адшараваў жарствой, і цяпер той блішчыць, як новы.

Я чухаю падбароддзе. Усё ж такі няроўны заклад: у мяне нататнік з азбукай Морзэ, а ў Мішкі нейкі там патрон, якіх процьма валяецца ў лесе. Урэшце, рашуча крэкнуўшы, я на знак згоды ляпаю далонню аб Мішкаву далонь.

Па дарозе мы збочваем да хаты цёткі Сцепаніды. Летась цётка пабралася шлюбам з вайскоўцам, і ў яе пад плотам ляжыць процьма тых самых тушоначных бляшанак. Ды што там тушонка — уся вёска бегае да цёткі, каб набыць спісаную вайсковую бялізну. Вось і ў іхнай хаце прасціны ды ручнікі пазначаны па ражках размытымі пячаткамі.

— Карацей, усё ёсць, апроч шпулі, — мармыча Мішка, выціраючы жмутом травы перапэцканую каланіцай пустую бляшанку.

— А з ніткамі шпуля?

— Ну з якімі ніткамі? Я ж табе кажу: лёску намотваем, бо нітка парвецца.

Мне карціць зараз жа бегчы да сябра майстраваць «верталёт», але мушу ісці дахаты. Маці працуе на ферме, якраз цяпер у яе дзённая дойка, і трэба быць дома, каб выгнаць нашу карову. Дый шпулю трэба з дому прыхапіць.

...У печы, як заўсёды, забелены панцак, які абрыдзеў да смерці. На мінулым тыдні маці прынесла ад цёткі Сцепаніды торбачку грэцкіх крупаў, але кашы з іх так ні разу і не зварыла. Сказала: на чорны дзень.

Панцак не лезе ў горла, таму наліваю ў конаўку цёплага яшчэ сырадою і п'ю, казелячы вокам на матчыну швейную машынку. Машынка дарэвалюцыйная, з аблупленымі нямецкімі літарамі «Singer». Потым поркаюся ў скрынцы, дзе маці захоўвае рознае швейнае прычындалле, выглядаю шпулю, на якой мала нітак, і, на хаду схапіўшы гамёлку хлеба, бягу да сябра.

Мішка часу не губляе: сядзіць на лаве пад яблыняй і выразае вялікімі нажніцамі прапелер з кансервавай бляшанкі. Тут жа, на лаве, ляжыць ручка ад сярпа з уторкнутым у яе алоўкам. Сястра Нюрка толькі вярнулася са школы і шморгае носам — відаць, ужо атрымала шчаўбана, бо надта ж любіць лезці ў братавы справы.

Сябар таргае падбароддзем, і я працягваю шпулю з-пад нітак.

— Тое што трэба, — ухвальна кажа Мішка, а я наструньваю вуха: на дальнім канцы вёскі ўжо чутно

# ГНЯЗДОМ

каровіна рыканне і авечае бляяне.

— На вось, прывяжы да лёскі якую гладкую палачку, каб спрытней было торгаць.

Я тыцкаю пальцам у бок хаты: маўляў, няма калі, трэба выганяць карову, і Мішка махае рукой.

— Давай я прывяжу, — азываецца Нюрка; брат ускоквае на ногі, раз'юшана выдыхае: — Ты яшчэ тут? — і мы з Нюркай выбягаем са двара. Дзяўчынёха бяжыць да сваіх сябровак, што таўкуцца непадалёку, а я дахаты — выганяць Субоху.

Карова цягне вільготную мысу, чакаючы заўсёднага кавалка хлеба, але мне не да таго. Ліхаманкава скідаю з каровінай шыі ланцуг, цягну Субоху за рог. Маўляў, выходзь хутчэй, няма калі з табой важдацца. Карова незадаволена выходзіць на двор, але да весніц не ідзе: пачынае лізаць шурпатым языком уздзеты на парканіну гарлач.

— Пайшла ў поле, каб на цябе ліха! — гарлаю штомоцы. Словы гэтыя я часцяком чую ад маці, — пхаю карову пятой у сцягнаК, і Субоха, каротка рыкнуўшы, ганарыстай хадою сунецца да весніц.

...Я прыспеў у самую пару: сябар ужо стаяў на ганку і рыхтаваўся апрабоўваць круцёлку.

Лопасці выразанага з бляшанкі прапелера нагадвалі пялёсткі зайцавай капусты: па краях былі шырокія і звужаліся да цэнтра. Пры гэтым край кожнай лопасці быў загнуты ўгору, рыхтых, як у магазінным прапелеры.

— Толькі ўважліва глядзі — куды паляціць, а то потым не знойдзем.

Мішка перавёў дых, тузануў лёску — прапелер крутнуўся, але нікуды не паляцеў.

— Заклініла. Трэба большую адтуліну зрабіць, — з гэтымі словамі сябар рынуў у хату і неўзабаве ізноўку з'явіўся на ганку, калупаючы прапелер кухонным нажом.

Я глядзеў на яго завіханні з усмешкай, пераканаўшыся, што круцёлка не тое што не даляціць да буслянкі, а наагул не зляціць са шпулі. Сябрук між тым ізноў прымацаваў прапелер, торгнуў лёску. І — вось дзіва! — круцёлка загула, размытай плямай мільганула ў паветры і захрасла ў кроне старой яблыні.

— Бачыў? — на Мішкаву чупрыну зваліўся ссечаны прапелерам лісток. — Дык гэта ж я толькі злёгку крутнуў, а калі б з усяе сілы?

Да ліпы шыбуем, не чуючы ўласных ног, сюд-туд пазіраючы на буслянку. Убачыўшы нас, бусел пачынае клекатаць, але нягучна, як бы з апаскаю.

— Хвалюецца, — мармыча Мішка, на хаду намотваючы лёску, — адчуў, што мы тут будзем нешта выпрабоўваць.

«Не даляціць, — думаю я, чарговы раз задзёршы галаў. — Надта высока».

Мішка таксама глядзіць на бусла, усхвалявана пераводзіць дых:

— Ну што, нататнік прыхапіў? Быў твой — стаў мо-о-о... гукае сябар.

Я нават не заўважыў, як Мішка тузануў лёску. Убачыў толькі, як прапелер, шоргнуўшы па Мішкавых валасах, зашамацеў у кустах.

Сябар войкнуў, упаў на калені, прыціснуў далонь да левага вока. Між пальцаў прабілася, як мне падалося, не чырвоная, а чорная юха.

«Вока! Круцёлка выбіла Мішку вока!» — сэрца маё аблла халадзёнка, а ногі, наадварот, наліліся нечым гарачым.

## Кажуць, як вока выб'еш, дык яно адразу выцякае. А ў Мішкі ж нічога не выцекла

— Міш... ты што-небудзь бачыш? — пытаюся сябра і ўпершыню ў жыцці не пазнаю ўласнага голасу: ён здаецца мне чужым і страшным.

Стоячы вокрач, сябар на момант прымае руку, глядзіць долу, і буйныя кроплі крыві раз за разам падаюць на пясок.

Мы бяжым на фельчарскі пункт, і я раз-пораз пытаюся ў сябра:

— Ну як, Міша, баліць?

Але сябар не адказвае, цісне далонь да вока і ледзь чутна стогне.

Да фельчарскага пункта дарога не блізкая. Месціцца ён на ўскраіне вёскі, на бальшаку, што вядзе ў Азярышча. Па дарозе да нас далучаецца цэлы гурт падшыванцаў.

— Мішка вока выбіў! — гучыць за спінай разам з пляскаННем босых ног, і ў мяне ад гэтых воклічаў абрываецца сэрца.

Маладая фельчарка, якая працуе тут першы год, сустракае нас на парозе, спалохана сашчэпліваe пальцы.

— Што з вокам?

Міша і сам не ведае. Мармыча штосьці, ужо не адным, а дзвюма далонямі прыкрываючы крывавую рану.

Падшыванцы пхаюць мяне ў спіну, я пнуся ўвайсці ў медпункт разам з Мішкам, ды фельчарка зачыняе дзверы перад самым носам.

— А дзе ён вока выбіў? — навыперадкі пытаецца малеча, я даю аднаму з іх лёгкага выспятка, іду ўздоўж сцяны, папераменку зазіраючы ў вокны, але яны шчыльна зацягнутыя белымі фіранкамі.

Абыйшоўшы медпункт — фарбаваны блакітнай фарбай фінскі дамок — разоў дзвацаць, сядаю на парозе, і ў гэты момант дзверы адчыняюцца, і з іх вылятае ўсхваляваная фельчарка..

— Станьце на бальшаку, і як пойдзе якая машына — спыняйце. Трэба ў раённую бальніцу везці.

Доўга машыну чакаць не даводзіцца. З-за павароткі, уздымаючы страшэнную пылюку, выязджае малакавозка. Я стаю пасярод бальшака, махаю рукой, і машына, даўшы натужны сігнал, спыняецца.

— Што, Юрка, у раён сабраўся? — пытаецца вадзіла, наш сусед па вуліцы Пецька Ліхаманаў.

— Канапелька вока выбіў!

Вадзіла хацеў быў прыпаліць папяросіну, але так і застыў з запаленай сярнічкай.

— Як выбіў? Зусім?!

Я не паспеў адказаць, бо да машыны ўжо беглі фельчарка з запэцканым крывёй халаце і Мішка з забінтаванай галавой. На белай асноведзі бінта ўпрыкмет разлівалася чырвоная пляма.

— Вы куды, у Азярышча? — яшчэ здаля крычыць фельчарка, і вадзіла спалохана адчыняе дзверцы.

— У Азярышча, куды ж яшчэ.

— Завязіце хворага ў бальніцу. Трэба швы накладаць.

Фельчарка яшчэ штосьці казала, але тут у канцы вуліцы гучна завохкалі, затупалі і з нетраў не аселай пылюкі выкулялася Мішкава маці. Валюхаста хітаючыся ў бокі, яна бегла ў атачэнні малечы па бальшаку і роспачна галасіла:

— А сыночак жа ж ты мой, а што ж ты з сабою нарабі-іў?!

У мяне ад таго лямату варушацца валасы на галаве. Усе глядзяць у канец вуліцы, а я крадком, незаўважна, сігаю ў кусты, што густым жываплотам буяюць ля дарогі.

Калі трэба прыхавацца ад маці, я лезу на гару і кладуся там у зацішку, за комінам, паклаўшы пад галаў аблезлы бацькавы кажух. Маці, калі мяне шукае, звычайна адчыняе паддашкавыя дзверцы, аглядае гарышча, але за комін ніколі не зазірае.

Бацькі ў мяне няма. Дакладней, ён ёсць, але з намі не жыве. Я яшчэ ў школу не хадзіў, як бацька выправіўся на цаліну. Збіраўся праз два месяцы вярнуцца, але так і не прыехаў. Маці кажа — збытаўся там з нейкай сучкай. А ў Мішкі Канапелькі бацька патануў залетась, разам з мужам цёткі Сцепаніды. Рыбу з лодкі лавілі, а тая ўзяла ды перакулілася...

«Няўжо й сапраўды выбіла вока?» — віруе ў галаве неадчэпная думка, і я, паправіўшы кажух, тулюся патыліцай да цёплага коміна.

«А можа, і нічога страшнага? Кажуць, як вока выб'еш, дык яно адразу выцякае. А ў Мішкі ж нічога не выцекла. Толькі кроў тачылася», — супакойваю сам сябе і тужліва, са стогнам, уздыхаю.

І тут жа ўяўляю, як Элеанора Захараўна, даведаўшыся пра сённяшняе здарэнне, плясне тоўстымі рукамі і голасна заенчыць: «Ужас!.. Это просто ужас!»

У школе гэтую гавараху ніхто не любіць. Мінулай зімы да нас у хату завітала, на нейкія выбары запрашала. Пераступіла парог, агледзелася, спытала, дзе я ўрокі раблю. Я й паказаў на кухонны стол. Дык падвяла зекры і разоў пяць выдыхнула свой «ужас». Маці яе таксама незалюбіла. Казала цётцы Сцепанідзе: фарсіць у мутонавым футры, а іх, калгасніц, у ватоўках і пахаваюць.

Заўтра ў школе, пасля заняткаў, лінейка. Элеанора Захараўна стане гарлаць пра тое, што перад намі, вучнямі, адчынены ўсе дарогі. Потым «гарадскія» паедуць у свой горадок, і там ім зладзяць «салодкі стол». Будуць есці торт з хатнімі піражкамі ды запіваць ліманадам...

На гары задуха, а тут яшчэ патыліца добра-такі ўгрэлася, і я адсоўваюся ад коміна.

«Цікава, а ці даляцела б круцёлка да буслянкі?» — думаю я, закінуўшы рукі за ўгрэтую патыліцу. Пайсці да ліпы, знайсці «верталёт» ды шмаргануць за лёску. Але ж можна і без вачэй застацца. Цяпер толькі мне стала зразумела, чаму ў магазіннага прапелера, які пускае Лёшка Гнядых, лопасці абхоплены абадком. Гэта каб вочы не параніць.

Згадваю, што дзесьці на гарышчы валяюцца бацькавы камбайнерскія акуляры з трэснутым шклом. Парываюся зараз жа іх адшукаць, але тут жа асуджана кладуся на кажух. Ну добра, вочы закрыеш, а як па лобе лясне ці нос адсячэ? Я спалохана мацаю нос і, пераканаўшыся, што ён на месцы, пераводжу дых і зморана пазяхаю.

...Мяне абудзілі галасы знадворку.

— Во... толькі што Пецька Ліхаманаў з Азярышча прывёз. Брыво да косткі парэзаў, швы наклалі.

Я пазнаю па голасе Канапельчыху — Мішкаву маці — і, закінуўшы рукі за патыліцу, шчасна пасміхаюся. Вока ў сябрука цэлае, а гэта галоўнае.

— Нюрка кажа, нейкі верталёт рабілі, а потым пускалі каля ліпы...

— А я думаю — чаго гэта ён хаваецца цэлы дзень, — гэта ўжо азываецца мая маці. — Во я яму зараз усыплю!

Здалёк чуваць каровіна рыканне, і Канапельчыха са сполахам у голасе выдыхае:

— Авой-авой, статак гоняць! Нешта рана сёння. Пайду пераймаць сваю карміцельку.

На падворку бразгае вядро ў калодзежы — маці чэрпае ваду для каровы.

— Юрка, ты дзе?! Зноў на гары хаваешся? Злазь зараз жа! — задыхана гукае маці, бразгае вядром і йдзе ў хату — узяць акраец хлеба: Субоха не зойдзе ў хлеў, пакуль ёй не дасі пачастунку.

І вось ужо рагуля рыкае ля весніц, і маці здушана гукае з хаты:

— Бягу ўжо, бягу!

Ад цяжкой каровінай хады гарышча злёгку здрыгваецца, і да кіславатага паху аўчыны далучаецца саладкаваты пах сырадою. Карова доўга і прагавіта п'е ваду, зморана аддзімаецца, нарэшце, бразгае вядром, засоплена рыкае.

## Круцёлка з ціхім гудам ляціць угару, і бусел, раскрыўшы дзюбу, уражана адводзіць назад галаву

— Ну, ідзі ўжо, ідзі, — падганяе маці Субоху, і тая па старой звычцы грукае капытам аб парог хлява.

— Вядро! — уголас шапчу, прыўзняўшыся на локці. Праз імгненне ўжо паўзу вокрач да паддашкавых дзверцаў, асцярожка, каб не пачула маці, злажу па драбінах, хапаю вядро, з якіх піла карова, і падаюся са двара.

Матчын вокліч даганяе мяне ўжо за весніцамі:

— Юрка... ашалеў? Куды ты пабег з вядром?

Вестка пра тое, што сябар параніў брыво, а не вока, зрабіла цела лёгкім, амаль бязважкім. Я то іду, то бягу подскакам, і адна думка не дае спакою: «Ці ляжыць пад ліпай круцёлка?» Удзень там таўчэцца малеча — хтосьці мог і падабраць.

Цацка ляжыць там, дзе яе кінулі: на лапіку жоўтага пяску. Прапелер таксама доўга шукаць не даводзіцца. Ён вісіць непадалёк, на кусце вербалозу.

Дзяржальна старога сярпа пазначана бурнатнай плямай крыві.

Я задзіраю галаў. Бусел стаіць на краі гнязда і глядзіць на мяне, ледзь чутна шчоўкаючы дзюбай.

— Зараз, боцька, да цябе верталёт прыляціць! — крычу буслу, і той пачынае клекатаць усё гучней і гучней.

Насоўваю на галаў вядро, сцепанаюся ад рэшткаў халоднай вады, што патрапілі за каршэнь. Тузануўшы лёску, ліхаманкава скідваю вядро з галавы. Круцёлка з ціхім гудам ляціць угару, на кароткае імгненне завісае ў паветры — якраз насупраць гнязда, — і бусел, раскрыўшы дзюбу, уражана адводзіць назад галаву. Круцёлка ляціць долу, з гучным шоргатам занураецца ў кусты.

Мне падалося, што таргануў лёску не на поўную сілу, таму другім разам насоўваю вядро, прысядаю, тузаю як мае быць, але тут надараецца неспадзяванка: дужка вядра чапляецца за падбароддзе, і, пакуль я вызваляю галаву, круцёлка бясследна расстае ў вечаровым небе. Я наструнываю слых — мусіць жа яна шорхнуць у траве ці кустах, — і слых мой цвеліць далёкая зязюля.

Іду дахаты, прыстасоўваючы разгоністы крок да мернага рыпання вядра. Круцёлку я так і не знайшоў. Дый як знойдзеш, калі сонца ўжо села, і бляшанка, зашыўшыся кудысьці ў траву, ужо не блішчыць і нябачная для вока. Але нічога. Заўтра знайду. А не, дык выраджу новую.

Ля Мішкавай хаты сціпшваю хаду і выцягваю шыю, выглядаючы сябра. Аднак замест забінтаванай Мішкавай галавы з-за агароджы вытыркаецца павязаная выцвілай хусцінкай рухавая Нюрчына галоўка.

— Нюр... — сціпшана гукаю, матлянуўшы ў паветры пустым вядром, і Нюрка спрытна выбягае з весніц.

— Маці дома?

— Дома... карову доіць, — адказвае Нюрка, свідруючы мяне дапытлівымі вачанятамі.

— А як братан? Вочы цэлыя?

— Цэлыя... толькі брыво рассек. Паслязаўтра да фельчаркі пойдзе, на перавязку.

Я дастаю з кішэні нататнік. Шкада, вядома, яго аддаваць, ды што зробіш...

— На во... перадай Мішку.

— А сам чаму не аддасі? — Нюрка прыкладае нататнік папеременку то да адной, то да другой шчакі.

— Чаму-чаму... таму... што за Зацэпы водзіць мама два прычэпы, — адказваю з усмешкай, і Нюрка, чмыхнуўшы носам, бяжыць, смешна раскідваючы ўбокі галянастыя ногі.

— Скажы Мішку: даляцела! — крычу наўздагон дзяўчынёсе.

У гэты міг па асветленай згасальным сонцам Нюрчынай спіне мільгануў імклівы цень і нізка над зямлёю, несучы штосьці важкае ў дзюбе, праляцеў бусел. Дакладней, бусліха, бо ногі ў птушкі былі такія ж, як у Нюркі — галянастыя, і гэтак жа смешна раскінутыя ўбакі. Бусліха, стомлена махнуўшы крыламі, падлядела да гнязда, і бусел, як ніколі дагэтуль гучна, закінуўшы ўгору галаву, заклекатаў, распавядаючы сяброўцы пра бліскучую круцёлку, што кагадзе праляцела над іхным котлішчам.



**Вінцэсь Мудроў**

нар. у 1953 у Полацку ў сям'і вайскоўца. Пісьменнік. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, Саюза беларускіх пісьменнікаў і Таварыства вольных літаратараў. Жыве ў Наваполацку. Яго кніга «Багун» трапіла ў шорт-ліст прэміі Гедройца.




## ФУТБОЛ

### «Гомель» — «Шахцёр»

**25—26 мая** адбудуцца матчы 9-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе. **У нядзелю** сустракаюцца:
«Дынама» (Брэст) — «Дняпро» (Магілёў);
«Белшына» (Бабруйск) — «Нёман» (Гродна);
«Слуцк» — «Дынама» (Мінск).
**У панядзелак:**
БАТЭ (Барысаў) — «Нафтан» (Наваполацк);
«Гомель» — «Шахцёр» (Салігорск) — цэнтральная сустрэча тура;
«Мінск» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна).

## ІМПРЭЗЫ

### «Рубон-2014»

**Фэст сярэднявечнай культуры «Рубон-2014»** пройдзе ў Полацку 23—25 мая. У гэтым годзе палітра «Рубона» дапоўніцца такімі складнікамі беларускай самабытнасці, як нацыянальная кухня і музейная этнаграфія: у час свята адбудзецца культурны фестываль, пройдзе тэатралізацыя з выкарыстаннем музейных экспанатаў, будзе прадстаўлена рэканструкцыя гістарычных эпох развіцця Полаччыны.

## КАНЦЭРТЫ

### «Свабоды фэст»

**21 мая ў клубе Re:Public** адбудзецца «Свабодны фэст» з нагоды 60-годдзя радыё «Свабода». Хэдлайнерам фестывалю стане легендарны беларускі гурт «Крама», таксама выступяць Пятро Клюеў Band, гурты Hurma, Haina, Recha, Leibonik і Сяргей Башлыкевіч. Пачатак а 18. Уваход вольны.

### «Нейра Дзюбель»

**21 мая ў Jack Club (Няміга, 12)** — вялікі святочны канцэрт у гонар дня нараджэння Аляксандра Кулінковіча. Пачатак а 19.

### N.R.M.

**23 мая ў клубе «Піраты»** — канцэрт гурту N.R.M. Пачатак а 19.

### Паліна Рэспубліка

**25 мая ў бары Tarantino (Кастрычніцкая, 5)** выступае Паліна Рэспубліка і гурт «Очень». Пачатак а 18-й.

### S°unduk

**27 мая ў бары Shelter (Ванеева,3)** — канцэрт гурту S°unduk. Пачатак у 18.30.

### Hurma

**28 мая а 19-й у клубе «Піраты» (Партызанскі, 6А)** гурт Hurma прэзентуе сінгл «Птушка».






**«Гальшанскі замак»**
Пяты фестываль сярэднявечнай культуры «Гальшанскі замак — 2014» адбудзецца ў Гальшанах 24 мая. У праграме фестывалю — рыцарскія турніры, спаборніцтвы, майстар-класы па сярэднявечных танцах, гульні.

### Пятрас Вішняўскас

**30 мая ў КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** — канцэрт зоркі еўрапейскага джазу, саксафаніста Пятраса Вішняўскаса (Літва), пры удзеле гурту Essa. Пачатак а 19.

## ВЫСТАВЫ

### Інверсія

**У творчай прасторы ЦЭХ (Незалежнасці, 58/6)** праходзіць выстава «Інверсія» — першая персанальная дэманстрацыя работ беларускага мастака, street artist і графічнага дызайнера Славы Семянюты. Тут можна пабачыць розныя аб'екты: графічныя ілюстрацыі, геаметрычныя скульптуры, аўдыё- і відэаінсталяцыі, графіці.

### Сад

**«Сад» — гэта эксперыментальны выставачны праект**, на прасторы якога аб'ядналіся творцы розных жанраў, прадстаўнікі розных пакаленняў — выпускнікі Акадэміі мастацтваў. Аснова экспазіцыі — творы са шкла і вадары. Выстава працуе ў галерэі «Акадэмія» (Сурганава, 14).

### «Back in BSSR / Зноў у БССР»

**У музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** дзейнічае выстава «Back in BSSR / Зноў у БССР», аснову якой складаюць рарытэтныя плакаты 1940—80-х гадоў з калекцыі Беларускага саюза дызайнераў. На выставе таксама можна пабачыць арыгінальныя прадметы з савецкай штодзённасці: тэхніка, побытавыя рэчы, творы мастацтва. Акцэнт зроблены на таварах, зробленых менавіта ў БССР. Асобны раздзел прысвечаны савецкаму нефармату: стылягам, хіпі, бітнікам.

## ТЭАТРЫ

### 22 мая

**Беларускай драматургіі** — Сталіца Эраўнд
**Купалаўскі** — Гамлет
**Лялек** — Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна
**Оперы і балета** — Спячая прыгажуня
**Юнага гледача** — Маленькі лорд Фаўнтлярой

### 23 мая

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна
**Оперы і балета** — Рыгалета
**Юнага гледача** — Тарас на Парнасе

### 24 мая

**Беларускай драматургіі** — Ціхі шэпт сыходзячых крокаў
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Лялек** — Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

### 25 мая

**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Лялек** — Мыйдадзір
**Оперы і балета** — Сем прыгажунь
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

### 26 мая

**Беларускай драматургіі** — Вечар сучаснага танца і перформансу
**Оперы і балета** — Сем прыгажунь

### 27 мая

**Беларускай драматургіі** — Ліфт
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Оперы і балета** — Кармэн

### 28 мая

**Оперы і балета** — Вітаўт
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

## КІНО

### Бітва за Зямлю

Касмічны пірат Харлак
анімацыя, фантастыка, касмічная опера
**Рэжысер:** Сіндзі Арамакі
**У ролях:** Сюн Агуры, Харума Міура, Ю Аой, Арата Фурута, Аяна Фукуда, Тасіюкі Марыкава, Маая Сакамота, Міюкі Савасіра
Японія, Францыя, ЗША, 108 хв.

У далёкай будучыні чалавецтва вынайшла звышхуткасны спосаб падарожнічаць у космасе і пакінула Зямлю. Калі рэсурсы наблізіліся да заканчэння, пяцьсот мільярдаў людзей выправіліся ў зваротны шлях, каб зноў насяліць родную планету. Але тая не можа прыняць такую колькасць людзей, таму пачалася вялікая вайна. У выніку Ордэн Гая аб'явіў Зямлю святым месцам, а таму недасяжным ні для каго.
Касмічны пірат Харлак ужо сто гадоў падарожнічае ў космасе на «Аркадыі»— караблі, які выкарыстоўвае тэхналогію зніклай расы з планеты Дзюра, заснаванай на цёмнай матэрыі. Ён апанаваны ідэяй вяртання на Зямлю і вынайшаў для гэтага свой спосаб: павярнуць час назад. У экіпаж карабля пранікае малады агент Дайба, брат якога кіруе флотам Ордэна. Дайба хоча перашкодзіць плану Харлака, але дазнаецца страшную праўду...
Фільм (дакладней, японская анімацыя, якую язык не паварочваецца назваць мультфільмам з-за якасці малюнка) створаны па матывах аднайменнага комікса і анімэ, якія выходзілі ў 1977—1979 гадах. Гэта франшыза лічацца не менш культавай, чым "Зорныя войны".
У стужцы ёсць класічныя рысы анімэ — ад закручанага сюжэта, у нюансы якога ўнікнуць не так проста, да прыгожых запаволеных кадраў. Высокатэхналагічная анімацыя дазволіла стварыць касмічныя дaляглядзы выдатнай якасці. Фільм мае рэйтынг 6+, але найбольш спадабаецца сапраўдным аматарам касмічнай фантастыкі.

**Настасся Уласава**



# Сырое грамадства не гарыць

Барда і паэта Змітра Сідаровіча ў нядзелю знайшлі нежывога ва ўласнай кватэры. «Ён двое сутак не адказваў на тэлефанаванні. У яго быў канцэрт, але ён не з'явіўся на яго», — расказаў сябар, прадпрымальнік Алесь Суша. У нядзелю, 18 мая, бацькі і былая жонка змаглі трапіць у яго кватэру ў Зялёным Лузе. Яны знайшлі нежывога Змітра. Вакол на падлозе была кроў, што адразу нарадзіла версію пра забойства. Аднак міліцэйскія эксперты не пабачылі прыкметаў гвалтоўнай смерці, на целе не было пашкоджанняў. Найхутчэй, мяркуюць сябры, адбылася закупорка і разрыў вены — Сідаровіч доўгі час пакутаваў ад тромбафлебіту. Але канчатковы адказ дасць судмедэкспертыза.

Не верыцца і ў версію пра самагубства. Асабліва калі чытаеш апошнія допісы Сідаровіча ў сацыяльных сетках — пазітыўныя, іранічныя. Дый сябры ўспамінаюць, што Сідаровіч, напрыклад, збіраўся купляць бетонамяшалку, каб рамантаваць дачу, — пра жывое думаў.

Бард жыў адзін. З жонкай яны былі разведзеныя. Па ім засталіся замужняя дачка і сын-школьнік. Сын Тамаш, як і бацька, захапляецца музыкай.

Сідаровічу было 48 гадоў. Гэты мінчук у трэцім калене і «тэхнар» быў адным з самых яскравых



крыэйтараў: многае з таго, што ён калісьці пачынаў, сёння набыло масавы характар і папулярнасць — рыцарскі рух і сярэднявечная музыка, танцавальныя вечарыны...

Ён скончыў мінскую палітэхніку ў 1987-м, напісаўшы — у савецкі час, калі яшчэ толькі-толькі прабіваліся пачаткі адраджэння, — па-беларуску дыплом. А пасля і кандыдацкую дысертацыю. І падчас вучобы, і працуючы вядучым інжынерам у «Белпраектсталькanструкцыі», Сідаровіч займаўся музыкай.

Яго гурт «Камелот», створаны ў пачатку 90-х, выбіваўся і з рокавай, і з эстраднай плыні: гэта былі песні рыцарства, «залатога веку», праспяваныя сённяшнімі словамі. «Стары Ольса», «Літвінтроль» — усе яны былі пасля «Камелота». «Ён шкадаваў, што «Камелот» застаўся недаацэненым, — кажа гісторык Алесь Белы. — З яго словаў выходзіла так, што самі ўдзельнікі ледзь не «злілі» праект. Ён гэта асабістай драмай лічыў. Часта казаў, што «Камелот» мусіў бы стаць фронтлайнерам беларускай поп-музыкі». Яго песні — «Тры жалуды», «Ясна панна мая», а асабліва «А дзе ж тыя ваяры» — спяваюць пад гітару на сяброўскіх бяседах і тыя, хто не чуў пра «Камелот».

«Ён перажываў ад непаўнаты беларускай прасторы. І напаўняў яе сумленна і шчодра, — згадвае Алесь Белы. — У спадчыне Сідаровіча ёсць недаацэнены твор, на які я б хацеў звярнуць увагу. Гэта дыск «Дзіцячы альбом» — калекцыя фальклору, аўтарскіх песень для выхавання па-беларуску. Многія з тых песень мая маці памятала з дзяцінства — «Кую ножку», «Як служыў я ў пана»...

Яшчэ адзін праект Сідаровіча, які шырака пайшоў у людзі, — танцавальныя вечарыны. «Гэта ж ён арганізаваў у Мінску масавы танцавальны рух — штотыднёвыя вечарыны ў кавярні «Жар-птушка» ў парку Горкага, якія збіралі па паўтары сотні людзей. Гэта быў яго прынцып: ён імкнуўся зрабіць максімальна шырокай любую праяву масавай беларускай культуры. І каб гэта было нязмушана, весела. Сысці з гета, у якім многія культурныя дзеячы сёння пачуваюцца камфортна».

«Ён быў вялікім аптымістам. Але задачы, якія ён сабе ставіў, не адпавядалі наяўным рэсурсам. Многае рабілася на энтузіязме. Ён быў самотны — пакутаваў ад недахопу добрага менеджменту, яму не ставала паплечнікаў. І не ягоная тут віна. Сідаровіч запальваў, але сырое грамадства — не гарыць», — кажа Белы.

**Сяргей Мікулевіч**

# Элеанора

На 68-м годзе жыцця памерла тэлевядучая, музыказнаўца Элеанора Язерская.

Язерская была адной з самых экстравагантных асоб беларускага свецкага бамонду. Паводле высноў Следчага камітэта, тэлевядучая памерла ад сардэчнай недастатковасці.

### Правілы жыцця ад Элеаноры Язерскай

• Сёння на БТ працуюць дылетанты, непрафесіяналы і проста выпадковыя людзі. У выніку — экран з нізкім інтэлектуальным узроўнем, разлічаны на ПТВ.
• Зоркі сённяшняга дня — гэта Стас Міхайлаў і Алена Ваенга. Дарэчы, таксама неадукаваныя людзі і ў крайняй ступені неінтэлігентныя. Так, як яны спяваюць, спяваюць у любым пабе.
• Калі на экране з'яўляецца новы тэлевядучы, я часта спыняю сябе на думцы: усе яго веды — гэта тое, што ён прачытаў у інтэрнэце.
• Я вельмі ганаруся тым, што мой загарадны дом знаходзіцца за два з паловай кіламетра ад месца, дзе нарадзіўся Янка Купала.
• Няма ў ім нічога нацыянальнага [пра БТ]. У насамрэч нацыянальнага канала павінна быць свая ідэя, свой твар, свае нацыянальныя праблемы, свая нацыянальная гісторыя. Але на нашым экране гісторыі ніякай няма. Я б ужо была згодная нават на «сталінскую» гісторыю. Дык і такой няма. А хто будзе казаць маладым і падрастаючым пра тое, што ў нас ёсць свая нацыянальная музыка і культура?
• Я дзіўная жанчына, я не люблю камуністаў. І заўсёды, нават у савецкія часы, казала пра іх «гэтыя бальшавікі».
• Я жанчына мінулага стагоддзя, таму цярпець не магу, калі фатаграфіі запампоўваюць у камп'ютар. Не! Я іх абавязкова друкую. У мяне ўжо 60 ці 70 альбомаў — па гарадах, па краінах. Я люблю разглядаць гэтыя фота і яшчэ раз пераконвацца ў тым, што нашы ўспаміны — гэта самы лепшы капітал.
• Адзінаццаць ці дванаццаць раз я была ў Парыжы, сем ці восем — у Італіі, мне ужо і не хочацца лічыць.
• Парыж не той, якім быў нават 10 гадоў таму. Ён як быццам ператварыўся ў афрыканскі горад. Я не расістка, але лічу, што перадусім Парыж павінен быць для французаў. Ствараецца адчуванне, што сёння ў гэтым горадзе іх жыве менш за ўсё.
• Нядаўна мы ехалі па Расіі, і мяне ўзрушыла ўбачанае: такое адчуванне, быццам Мамай толькі што прайшоў ці вайна скончылася — пахіленыя хаты, ні кветачкі.
• Мне не вельмі хочацца паўсюль бачыць апантанага рускага турыста, які, па-мойму, сёння наводзіць страх на Еўропу. Ведаеш, што такое рускі турыст? Гэта чалавек, які ў 40-градусную спёку на пляжы ў той жа Анталі п'е 40-градусную гарэлку і спявае «Ой, мароз-мароз, не марозь мяне...» Гэта я паўтараю ўслед за Задорнавым.
• Хто ў той час мог напросту паляцець на ўік-энд у Сочы? Зараз гэтым нікога не здзівіш, зразумела — Еўропа побач. Шкада, што мае найлепшыя гады не прыйшліся на сёння — ужо я б разгарнулася.
• Вечнае каханне тое, якое доўжыцца крыху даўжэй, чым звычайнае. А колькі доўжыцца звычайнае? Бог яго ведае.
• Я павінна жыць адна. Таму што вялікі індывідуаліст і занадта эгаістычная. Мне цяжка жыць з кімсьці.
• Мне б хацелася, каб мы былі не толькі спартыўнай дзяржавай, але і культурнай.



**Язерская прыдумала выраз «закат над балотам»**

Гэтак яна ў свой час прыпячатала чырвона-зялёны сцяг дый усю эпоху, адзначыў журналіст Сяргей Навумчык.

**Падрыхтаваў Ягор Марціновіч**

# Мінкульт увёў дзяржпрыёмку ў тэатрах

Створаная камісія, якая вызначае, якія спектаклі ставіць у тэатрах, а якія не. Пра гэта расказаў нядаўна звольнены дырэктар Тэатра беларускай драматургіі Ігар Сігаў.

«Распараджэннем Міністэрства культуры створана камісія, якая дае дабро на пастаноўку спектакля. Дырэктар паведамляе план пастаноўкі, камісія чытае п'есу і зацвярджае. Больш за тое, здаваць спектакль тэатр павінен за сем дзён да прэм'еры. У склад гэтай камісіі ўваходзяць абсалютна далёкія ад творчасці людзі. Гэта такая дзяржпрыёмка. Тэатр пачынае залежаць ад чыноўнікаў: што рабіць, пра што казаць, пра што маўчаць. Па сутнасці, у тэатр прыйшла цэнзура. Гэтае глупства можа прывесці да таго, што мы страцім культуру ў краіне», — кажа Сігаў.

**Паводле «Салідарнасці»**

## Сцісла

### Памёр аўтар несмяротных «Малінаўкі», «Травы ля дома»

Савецкі і расійскі паэт-песеннік Анатоль Папярэчны ва ўзросце 79 гадоў памёр у ноч на нядзелю, 18 мая, у Маскве. Папярэчны — аўтар 22 зборнікаў паэм і вершаў. Ён напісаў вершы да такіх папулярных эстрадных песень, як «Малиновый звон», «Аист на крыше», «Трава у дома» («Зямляне»). Напісаў ён некалькі твораў і для беларускіх выканаўцаў: «Алеся — дзяўчына з Палесся», якую выконвалі «Сябры» (не блытаць з песняй на словы А.Куляшова ў выкананні «Песняроў»), «Каліны куст» (Яраслаў Еўдакімаў), а песня «Малінаўка» (музыку напісаў Э. Ханок) у выкананні «Верасоў» стала суперхітом.

### «Габелен стагоддзя» Кішчанкі выстаўлены на праспекце Машэрава

Выстава «Габелена стагоддзя» — унікальнага твора беларускага мастака Аляксандра Кішчанкі (1933—1997) — ідзе ў будынку цэнтральнага офіса Банка развіцця на праспекце Машэрава ў Мінску. «Габелен стагоддзя» — гэта гіганцкі твор вышынёй з шасціпавярховы дом (14 м). Яго плошча — 266 кв.м. Ён трапіў у Кнігу рэкордаў Гінэса як самы вялікі габелен ў свеце. Асобы, прадстаўленыя на габелене, належаць гісторыі XX стагоддзя. Гэта дзяржаўныя дзеячы і прадстаўнікі сусветнай культуры. Габелен вытканы ўручную з воўны, выстаўляўся ўсяго некалькі разоў. Да 30 мая яго бясплатна можа пабачыць кожны.

### Шорт-ліст Гедройца: Бабкоў, Брава, Вераціла, Клінаў, Мудроў, Рублеўская

Журы абвесціла шорт-ліст літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца. У яго ўвайшлі кнігі «Хвілінка: Тры гісторыі» Ігара Бабкова, «Дараванне» Алены Брава, «Разбітае сэрца Вітаўта» Сяргея Верацілы, «Шклатара» Артура Клінава, «Багун» Вінцэся Мудрова, «Ночы на Плябанскіх млынах» Людмілы Рублеўскай. Пераможца будзе названы ў чэрвені.

**СМ**




**Наведнікаў крамы «Родны кут» на праспекце Пераможцаў вітае кандытарскі зубр Валера — сімвал чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску. Галава ў Валеры выпечаная як каравай, а тулава абсыпанае спецыяльнымі кандытарскімі пасыпкамі. Скульптуру падрыхтавалі адмыслова да адкрыцця крамы на радасць наведнікам і турыстам.**




**У ноч з 17 на 18 мая ў Мінску прайшоў традыцыйны фестываль «Ноч музеяў». Музей гісторыі Мінска з выставай савецкіх артэфактаў «Назад у БССР» карыстаўся папулярнасцю — каб трапіць у музей, людзі стаялі ў вялікай чарзе.**

**Трохразовая алімпійская чэмпіёнка ў біятлоне Дар'я Домрачава цяпер у адпачынку. З чытачамі свайго Фэйсбука яна дзеліцца такімі сонечнымі здымкамі.**

**Кароль Бельгіі Філіп (у сіняй кашулі) браў удзел у 20-кіламетровым забегу ў Брусэлі. Філіпу 54 гады. Дыстанцыю ён прайшоў за 1 гадзіну 58 хвілін.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Назва абавязвае: лядоўня «Атлант» вось ужо 3 гады ўпэўнена трымае на сабе столь кухні ў мінскай хрушчоўцы.

* * *

Лукашэнка прыняў даверчыя граматы ў паслоў васьмі дзяржаў. Хоць і не давяраў ніводнаму з іх.

* * *

Жанчына заходзіць у аптэку і пытаецца:

— Падкажыце, што лепш купіць мужу: валідол або валяр'янку?

— А дыягназ які?

— Басаножкі за 5 мільёнаў рублёў.

* * *

Тата з сынам гуляюць вакол Маскоўскага Крамля.

— Тата, а навошта патрэбна Крамлёўская сцяна?

— Каб гады не пералазілі...

Сын перапытвае:

— А адкуль? Звонку ці знутры?

* * *

Прараб Вася настолькі добра валодае інтанацыяй, што фразай «Тваю маць!» можа і палаяць, і пахваліць, і павітацца, і нават выказаць спачуванне.

* * *

Міліцыя:

— Алё? Ваша жонка трапіла ў аварыю. Трэба, каб вы прыехалі на апазнанне.

Муж:

— Ой, я зараз вельмі заняты. Выкладзіце фотаздымкі на Фэйсбук і адпраўце мне спасылку. Калі гэта яна — я націсну «лайк».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вёска Лоск, Ашмянскага павета.** У нас жыве ўдава псаломшчыка Вольга Левай. Яна бедная і, сабраўшы некалькі рублёў, купіла ў казённым лесе дроў і мае на сваё імя ад смаргонскага ляснічага білет. Лес яна вырубала і збіралася звязці да хаты, ажно прыехалі з Гародна поп Кунаховіч з вучыцелем Касяком на 5 падводах, і забралі ўдовіны дровы, і налаялі яе.

**«НН». №20. 1914.**

**Расія ахвяруе Украіне больш, чым Беларусі.** Расія адмовілася спаганяць падатак на дабаўленую вартасць па месцы вытворчасці на карысць Украіны, перайшоўшы на прынцыпы ва ўсім свеце механізм — спаганяць ПДВ у краіне прызначэння. Тым самым Расія губляе 800 мільёнаў даляраў, якія б магла браць з энергарэсурсаў, што пастаўляюць ва Украіну. Не бескарысліва: узамен за адмову Украіны ад курсу на еўраінтэграцыю і, вядома, толькі ў тым выпадку, калі прэзідэнтам будзе абраны Януковіч, а не Юшчанка. За прадаваныя ў Беларусь энергарэсурсы Расія па-ранейшаму спаганяе ПДВ у сябе.

**«НН». №19. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

заснавана ў 1906, адноўлена ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8 029 613-32-32
8 029 707-73-29
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 20.30 20.05.2014.
Замова №1982.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 14019